# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World

Published by the Byelorussian-American Association

P.O. Box 178

Jamaica, New York 11432

U.S.A.

| № 348<br>Год выд. XXXVII | Чэрвень<br>1988 |
|---|---|


## ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСКАГА КАМУНІСТА

### Культурнае самагубства-пратэст Пімена Панчанкі

*Мы на чулых людзей багаты,*
*Злосьці-б трохі да чуласьці той!*
*Часта гады і торбахваты*
*Карыстаюцца дабратой.*

**Пімен Панчанка.** Сумленьне (верш). «Полымя», 1964, № 12.

Пімен Панчанка — народны паэт Беларусі, камуніст ад 1943 году, прылюдна, дэманстрацыйна адмовіўся пісаць пабеларуску свае творы, фактычна, скончыў свой літаратурны шлях культурным самагубствам, гэтак як самагубствам (фізычным) скончылі свой шлях у палітыцы й навуцы ў 1930-х гадох дзяржаўныя дзеячы БССР: акадэмік Усевалод Ігнатоўскі, Мікола Галадзед, Алесь Чарвякоў. Ёсьць шмат паралелізму ў генацыдзе 30-х гадоў і этнацыдзе гадоў 80-х.

Пасьветчаньнем самагубства паэта ці, можа лепш сказаць, маніфэстам самагубца стаўся Панчанкаў верш «Разьвітаньне», выдрукаваны ў газэце «Літаратура і Мастацтва» 26 лютага сёлета. Верш гэты — ня толькі разьвітальны крык душы песьняра, ягоная лебядзіная песьня, але адначасна й акт абвінавачаньня нацыянальнае палітыкі ў Беларусі (Панчанка правільна назваў яе «вялікадзяржаўным шавінізмам»), палітыкі, характэрным прадстаўніком і апэратарам якое стаўся міністэрскі й чыноўніцкі халуй і рэнэгат або, кажучы Панчанкавым тэрмінам, «пірат», мерка вартасьцяў у якога простая: «гаворыш парускy — інтэрнацыяналіст, гаворыш пабеларуску — нацыяналіст». Ніжэй падаём гэты дакумэнт веку, свайго роду ілюстрацыю да словаў зь гімну БССР, дзе сьпяваецца аб тым, як «Беларусы з братняю Русьсю разам шукалі к шчасьцю дарог...»

**Пімен Панчанка**

*РАЗЬВІТАНЬНЕ*

*Вялікая дзяржава —*
*Вялікая ідэя.*
*І ўсё-ж, таварыш мой,*
*Мазгамі шавяльні:*
*Каля агню братэрства*
*Расьлі і ліхадзеі,*
*І расьцьвітаў*
*Вялікадзяржаўны шавінізм.*
*Якія-б войны*
*У нас ні перакатваліся,*
*І як-бы акупанты*
*Ні дратавалі зямлю,*
*Рана ці позна*
*Народы распраўляліся з катамі,*
*І зноў аралі і сеялі,*
*І гаварылі: «Люблю».*

*Пахлі нашы пожні*
*Мятаю і рутаю,*
*А цяпер,*
*Пасьля аграхімічных праполак,*
*Пахне глеба гэрбіцыдамі,*
*А вада атрутаю.*
*У рацэ — ні плотак, ні язёў,*
*Ні ў жыце перапёлак.*



*А нашы псэўда-асьветнікі,*
*Сабраныя на канцылярскіх сьметніках,*

*Магутныя бюракраты*
*Даюць нам цішком парады:*
*«Гаворыш парускy*
*Інтэрнацыяналіст,*
*Гаворыш пабеларуску —*
*Нацыяналіст.*
*Вучы дзяцей французскай,*
*Англійскай, эспэранта,*
*Але не беларускай —*
*Палохаюць піраты.*
*І адвучылі*
*Дзяцей і бацькоў,*
*І адлучылі*
*Ад родных народных слоў.*

*Вучоны невук*
*Ці дурнаваты крытык,*
*Якія паэзію*
*Не разумеюць і не адчуваюць,*
*То ў жанры даносу,*
*То пагардліва адкрыта*
*Мяне з году ў год*
*Ушчуваюць:*
*«Каму патрэбна*
*Тваіх маніфэстаў рыторыка?*
*Трэба пра шчасьце пісаць*
*І далі прасторныя».*
*А я журуся:*
*Мала ў Беларусі*
*Разумных гісторыкаў,*
*якія любяць і ведаюць*
*Родную гісторыю.*

*Яны сьмяюцца*
*Над думкамі залатымі:*
*«Зьнікае ўсё:*
*І вучэньні, і мовы, і веры.*
*Сёньня Рым размаўляе*
*Не на латыні,*
*А Афіны гавораць*
*Не на мове Гамэра.*
*Мы спазьніліся*
*На сотні, напэўна, гадоў,*
*А можа,*
*На цэлае тысячагодзьдзе,*
*Мы забылі пра вольнасьць*
*Старажытных сваіх гарадоў.*
*Наш цягнік адыйшоў.*
*Зьнікла родная мова*
*У народзе».*

(Працяг на 2-й б.)

## ЧАТЫРЫ ГАДЫ БЯЗУПЫННЫХ РАССТРЭЛАЎ

### Бальшавіцкі генацыд у Беларусі

Адзін з тэзісаў ЦК КПСС, прынятых да XIX партыйнай канфэрэнцыі, што адбылася ў Маскве напрыканцы гэтага месяца, гучыць гэтак: *«Рэгабілітацыя тых, хто стаў у мінулым ахвярай неабгрунтаваных палітычных абвінавачаньняў, беззаконнасьці, — наш партыйны і грамадзянскі абавязак».* Выконваючы гэты абавязак, газэта «Літаратура і Мастацтва» ў нумары за 3-га чэрвеня зьмясьціла вялікі дакумэнтальны нарыс Зянона Пазьняка й Яўгена Шмыгалёва пад заг. «Курапаты — дарога сьмерці». Загаловак ілюстраваны фатаздымкам чарапоў у масавай магіле. На дзьвюх старонках газэтнага друку аўтары падалі шмат сьветчаньняў людзей колішняй вёскі Зялёны Луг, што пад Менскам, «зьлева ад Лагойскай шашы, не даяжджаючы да кальцавой дарогі». Там, два кілямэтры на поўнач ад былой вёскі Зялёны Луг, у мясьціне званай Курапатамі (курапаты, кураслепік — дыялектныя назовы белых пралесак), паводля сьветак, «з 1937 па 1941 год кожны дзень і кожную ноч расстрэльвалі людзей, якіх прывозілі на машынах».

разьдзецца, — загадвае канвой, — пойдзем у лазьню'. Голых людзей на лютым марозе абліваюць з брандспойтаў вадой. 'Зь лёгкай парай, — рагочуць канваіры, — а цяпер спаць'. І зачынілі дзьверы. Назаўтра з усяго цягніка жывымі засталіся нямногія. Абледзянелыя трупы грузілі на вазы так, каб зьвісалі галовы, а нехта з катаў разьбіваў іх калуном. Відаць, загадана для гарантыі. Мінаюць гады, і ня зьнікае з уяўленьня забойца мерцьвякоў».

Фашысцкія каты найчасьцей палілі жывымі, а бальшавіцкія, як бачым, і мароз выкарыстоўвалі...

Шмат хто са сьветкаў выказвае цяпер думку, што ахвярам сталіншчыны трэба паставіць помнік. «Колькі добрых людзей пазабівалі! — сказала адна жанчына зь Зялёнага Лугу. — Цяпер хоць-бы ім помнік які паставілі. Гэтаж такі глум быў над народам!» Пра гэткія помнікі гутаркі вядуцца па цэлым Савецкім Саюзе і на самых розных форумах.

Апісаньне жудасьцяў, якімі займаліся войскі НКУС (Народнага камісарыяту унутраных справаў, тое самае



*Марш дэманстрантаў у Менску 19.VI.88 па дарозе на Курапаты. Дэманстранты несьлі лёзунгі: «Ніхто не забыты, нішто не забыта», «Ведаць, каб не паўтаралася», «Вечная памяць ахвярам генацыду». На мітынгу, які трываў блізу чатыры гадзіны, выступіла больш за 30 прамоўцаў. Быў прыняты заклік аб створэньні грамадзкай камісіі (у дадатак да ўрадавай камісіі, што ўжо створаная) на чале з народным пісьменьнікам Васілём Быкавам. Таго-ж самага дня ў Менску адбыліся іншыя мітынгі памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў («ЛіМ», 24.VI.88).*

На пытаньне аўтараў нарысу, хто тыя людзі былі, адна жыхарка Зялёнага Лугу сказала: «А простыя людзі, рабочыя». — «За што ўзялі?» — «Ніхто ня ведае. Тады не казалі і ня пыталіся. Ноччу па вёсках машына, буда такая хадзіла — 'чорны воран' называлася. Людзей забіралі і адвозілі. І да сёньняшняга дня ніхто ня ведае, дзе яны. Можа, там і ляжаць...».

Аўтары апісваюць жудасныя сцэны масавага зьнішчэньня людзей, як прыкладам гэткая:

«Вось гоняць людзей па этапах. У дваццаціградусны мароз вязуць цягніком. Спыніліся на станцы. 'Усім

што й НКВД) Пазьняк і Шмыгалёў скончылі гэткімі словамі:

«Асобная тэма — пра дараваньне і пакараньне. Няхай чытач пра гэта падумае сам. Мы мяркуем, што няма дараваньня за генацыд. На тых, што рабілі такое, не павінен распаўсюджвацца тэрмін даўнасьці. Калі трапляеш у глыбокую і халодную трохмэтровую яму, усланую трупамі, — бярэш у рукі сьлізкую падэшву ад маленькага, ня больш за 34 памер жаночага туфля, — разумееш гэта адназначна».

Ня толькі ад Гітлера загінуў «кожны чацьвёрты»...

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСКАГА КАМУНІСТА

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

*У кожнага ёсьць*
*Свае рэкі —*
*Дняпро ці Нёман,*
*Ціхі Дон ці разьюшаны Енісей.*
*У сваіх парадзелых лясах*
*Я ня чую*
*Ўсхвалёваны гоман,*
*А рака памутнелага часу*
*Нас нясе і нясе, і нясе...*

*Пастаю я самотна*
*Каля полацкай белай Сафіі,*
*Паблукаю ў Гародні,*
*Пажуруся ў турава-пінскім*
*Палесьсі,*
*А вочы мае ўжо ня плачуць —*
*Сухія, сухія:*
*Ня чутно мне*
*З былога*
*Ні грому,*
*Ні звону,*
*Адны толькі казкі*
*Ды песьні...*

*Родны Янка Купала,*
*Вы пісалі:*
*«Я веру: настане...»*
*Дарагі мой Іван Дамінікавіч,*
*Не, не настане!*
*Гэта ўжо ня сьвітаньне,*
*Гэта наша настала зьмярканьне,*
*Гэта з мовай маёй,*
*Гэта зь песьняй маёй*
*Разьвітаньне.*

Аб тым, што Пімен Панчанка дэманстрацыйна разьвітаўся з роднай літаратурай, сказаў у сваім выступленьні на пленуме Саюзу пісьменьнікаў БССР празаік Васіль Быкаў, які таксама мае тытул народнага. «Са два месяцы назад, — сказаў Быкаў, — у культурным жыцьці нашай рэспублікі адбылося вялікае ЧП («чрезвычайное происшествие» — рэд. «Б-са»), надзвычайная падзея: адзін з самых лепшых нашых паэтаў, нястомны барацьбіт за перабудову, народны паэт рэспублікі Пімен Панчанка прынародна разьвітаўся з роднаю мовай. Што гэта, калі не вялікае няшчасьце для нацыі, далёкія вынікі якога цяпер проста немагчыма прадбачыць?» («ЛіМ», 3.VI.88).

Выразьней пра тое самае сказаў Васіль Быкаў у крыху зьмененай вэрсіі тае-ж прамовы, зьмешчанай у цэнтральнай газэце «Советская Культура» (11.VI): «Народны паэт рэспублікі Пімен Панчанка, — сказана там, — прынародна разьвітаўся з роднай мовай, пакінуў на ёй пісаць з тае прычыны, што старавечная беларуская мова трациць сфэру свайго ўжытку, стаецца 'мовай для вузкога кола'». Тут-жа Васіль Быкаў заяўляе (як і ў газэце «ЛіМ»), што Панчанкава адмова пісаць пабеларуску мае «вельмі канкрэтную першапрычыну, назоў якой — антыдэмакратызм».

Нарэшце савецкай «народнай дэмакратыі» адкрыта дадзенае ейнае запраўднае імя — антыдэмакратызм.

Пімен Панчанка, «равесьнік Кастрычніка» (нарадзіўся ў 1917 г.), стаўшыся камуністам 45 гадоў таму, даўгі час захоўваў у сабе веру, што Кастрычніцкая рэвалюцыя й савецкая ўлада прынесьлі Беларусі роўнасьць, справядлівасьць і ўмовы для роквіту нацыянальнай культуры. Баронячы савецкую ўладу, Панчанка рэзка асуджаў гэтак званых «беларускіх буржуазных нацыяналістаў» за іхную крытыку савецкага культурнага «будаўніцтва» на Беларусі. Гэтак, прыкладам, у газэце «Зьвязда» за 12 лютага 1977 г. Панчанка, тады ўжо народны паэт БССР, пісаў пра «ганебна славутую радыястанцыю 'Свабода'», у аднэй зь перадачаў якое была выказаная пахвала некаторым ягоным вершам. Абураны Панчанка пісаў у «Зьвязьдзе»: «Наёмным брахунам дробныя кавалачкі праўды патрэбныя для таго, каб уціснуць словы пра 'нацыянальныя традыцыі'. Маўляў, паэт і мяшчанства бічуе, і прыроду абараняе, і да вясковага маленства зьвяртаецца таму, што 'сучасная сапраўднасьць не такая ўжо і прывабная'».

Для Панчанкі ў 1977 годзе ўсё выглядала прывабным. У духу брэжнеўскае пары застою Панчанка заяўляў: «А народныя і нацыянальныя традыцыі ў нас беражліва захоўваюцца і разьвіваюцца. Толькі ня так, як гэта хацелася-б заскарузлым буржуазным нацыяналістам». Артыкул свой у «Зьвязьдзе» Панчанка закончыў дэкляpацыяй: «За савецкі лад жыцьця, за дружбу паміж народамі, за мір я агітаваў і буду агітаваць усёй сваёй паэзіяй, усім сваім жыцьцём камуніста».

Але вось і Пімен Панчанка стаўся, malgré soi, беларускім нацыяналістам: «гаворыш пабеларуску — нацыяналіст»!.. Гэтак спачварылі культурныя бюракраты-халуі ў Менску, у тым ліку і ў ЦК кампартыі рэспублікі, ідэю дружбы паміж народамі.

Летась яшчэ ў выдавецтве «Мастацкая Літаратура» выйшаў зборнік Панчанкавай паэзіі пад загалоўкам, што гучыць цяпер іранічна — «Прылучэньне». Кніга выйшла мізэрным для рэспублікі зь 10-міліённым жыхарствам тыражом чатыры тысячы экзэмпляраў. Гэта ўжо ня «прылучэньне», а адлучэньне — палітыка, якую сыстэматычна й напорна праводзяць міністэрствы культуры й асьветы БССР пры маўклівай згодзе партыйнага кіраўніцтва рэспублікі. Пратэстам супраць гэтага культурнага гвалту над Беларусяй і сталася літаратурнае самагубства аднаго з найбольш грамадзянскіх і адважных песьняроў краю, Пімена Панчанкі.

Пімен Панчанка ў сьнежні 1986 году паставіў сваё імя пад лістом 28-х дзеячоў беларускае культуры да Гарбачова (ані адказу на той ліст ані інфармацыі пра яго беларускае грамадзтва яшчэ не дачакалася). А сёлета ў лютым паэт дэманстрацыйна разьвітаўся зь літаратурнай творчасьцяй. Ня будзе дзіва, калі ягоным наступным крокам станецца дэманстрацыйнае выступленьне з камуністычнай партыі, на якую ён ускладаў свае надзеі, але якая прывяла беларускі народ да краю культурнай прорвы.

## СЭСІЯ РАДЫ БНР

У Нью-Ёрку 28 траўня сёлета адбылася 18-я звычайная справаздачна-перавыбарная сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Сэсія разгледзела бягучыя палітычныя й арганізацыйныя пытаньні, прыняла новых сяброў. За Старшыню Рады БНР быў перавыбраны на наступны шасьцігадовы тэрмін др. Язэп Сажыч.

## «БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ»

**Хрэстаматыя (зь бібліяграфіяй і храналёгіяй)**

У выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку неўзабаве выйдзе з друку ангельскаю моваю, пры фінансавай дапамозе Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, кніга пад заг. «Беларуская Дзяржаўнасьць». У кнізе ўпяршыню будуць выдрукаваныя сьветчаньні ўдзельнікаў гістарычных падзеяў у Менску й на Беларусі ў 1917-1918 гадох: Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі, Канстантына Езавітава, Аляксандра Цьвікевіча, Антона Луцкевіча ды іншых. У зборніку будуць таксама матар'ялы да пытаньня беларускае дзяржаўнасьці, што зьяўляліся ў друку перад і пасьля 1917 году, у тым ліку артыкулы Фабіяна Ярэміча, кс. Адама Станкевіча ды іншых дзеячоў. У кнізе дадзены таксама агляд савецкай гістарыяграфіі на тэму беларускай дзяржаўнасьці (др. Я. Запруднік), аналіз Слуцкага Паўстаньня (др. В. Кіпель) ды багатая бібліяграфія з анатацыямі, апрацаваная сп-няй Зорай Кіпель.

Выданьне кнігі дарагое, а дзеля гэтага БІНіМ зварачаецца да ўсіх з заклікам падтрымаць публікацыю шляхам папярэдняе падпіскі (цана: 20 дал.) ды ў меру магчымасьці ахвярамі на выдавецкі фонд.

Byelorussian Institute
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

## У МАСКВЕ ПРА М. КУКАБАКУ

Савецкі акадэмік Андрэй Сахараў на прэсканфэрэнцыі ў Маскве ў часе побыту там прэзыдэнта Рэйгана, гаворачы пра палітычных вязьняў, якіх савецкая ўлада трымае яшчэ ў зьняволеньні, назваў першым беларускага іншадумца Міхала Кукабаку.

## ПАШТОЎКА ПРА М. КУКАБАКУ

Архітэктар Сьвецік Каранеўскі ў Аўстраліі выдаў паштоўку на абарону беларускага вязьня сумленьня Міхала Кукабакі. Кукабака адбывае цяпер тэрмін пакараньня ў лягеры прымусовае працы.

На адным баку паштоўкі — фатаграфія Кукабакі, на другім — адрас і просьба (паангельску) да пракурора РСФСР Емельянава, каб Кукабаку выпусьцілі на волю й дазволілі яму выехаць з Савецкага Саюзу, як ён гэтага дамагаецца ад 1977 году.

Паштоўкі гэткія Вы можаце дастаць задарма з рэдакцыі «Беларуса». З маркай за 36 цэнтаў (у ЗША) яна будзе дастаўленая адрасату паветранай поштай.

Просьба да ўсіх: пасылайце гэтыя паштоўкі або пішэце лісты пракурору Емельянаву з дамаганьнем (ветлівым) выпусьціць Міхала Кукабаку на волю. Пішэце на адрас:

RSFSR (Soviet Union)
103760 Moskva K-31
Kuznetsky Most 13
Prokuratura RSFSR
Prokuroru
Yemelyanovu S.A.

# КАНФЭРЭНЦЫЯ АБН

У Вашынгтоне у гасьцініцы «Марыёт», што тры кварталы ад Белага Дому, адбылася 13-15 траўня міжнародная канфэрэнцыя Антыбальшавіцкага Блёку Народаў. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі 24-х паняволеных народаў, у тым ліку й беларускі дэлегат сп. К. Мерляк.

Галоўным мамэнтам першага дня канфэрэнцыі была прамова Старшыні АБН сп-ні Славы Стэцько, якая адначасна займае становішча кіраўніка замежных справаў украінскага ўраду на чужыне. Папаўдні таго-ж дня разглядаліся падзеі ў краёх, паняволеных расейскім камунізмам. Прадстаўнікі 17-х народаў насьветлілі галоўныя падзеі на сваіх землях.

Другі дзень канфэрэнцыі быў прысьвечаны аналізу «галоснасьці й перабудовы», пытаньню міфу й рэальнасьці ў Савецкім Саюзе й ягоных «сатэлітах» ды разуменьню новых зьяваў Вольным Сьветам. Тут выступалі разам з навукоўцамі й палітычнымі дзеячамі з паняволеных краёў таксама амэрыканскія, брытанскія й швэдзкія спэцыялісты й палітыкі. Быў прыняты адкрыты ліст да прэзыдэнта Рэйгана, у якім зьвернутая ўвага на варожую да Захаду савецкую палітыку, што супярэчыць абвешчанай Гарбачовам палітыцы «галоснасьці й перабудовы». Ліст быў падпісаны ўсімі прадстаўнікамі й даручаны ў Белы Дом.

На банкеце таго-ж дня было шмат выдатных прамоўцаў, у тым ліку ад брытанскага й канадзкага парлямэнтаў ды ад Антыкамуністычнае Лігі Народаў Азіі.

Прэзыдэнт Рэйган прыслаў пісьмовае прывітаньне ўдзельнікам канфэрэнцыі. Сярод мноства іншых вітаньняў былі таксама прывітальныя лісты ад Беларускага Вызвольнага Фронту зь Нямеччыны й Ангельшчыны. На заканчэньне афіцыяльнай часткі прамаўляла сп-ня С. Стэцько.

На наступны дзень капітан Ёзэф Бэрг зь Міністэрства абароны ЗША гаварыў пра ўзброенасьць Савецкага Саюзу, а пра ход вызвольнага змаганьня гаварылі прадстаўнікі Анголы, Ірану, Мазамбіку, Эфіёпіі, Афганістану й ЗША.

Пра тэрарызм як найнавейшую зброю камунізму гаварыў амэрыканскі генэрал Джон Сынгляўб.

Канфэрэнцыя прайшла на высокім узроўні пры вялікім ліку ўдзельнікаў і была вельмі добра арганізаваная.

**К. М.**

## РЭЛІГІЙНЫЯ ПАТРЭБЫ Ў БССР

У Менскай епархіяльнай управе Праваслаўнай Царквы зь ініцыятывы Мітрапаліта Філарэта адбыўся калёквіюм (канфэрэнцыя) на тэму хрысьціянізацыі Русі й беларускай культуры. У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел больш за 60 вучоных, было прачытана звыш 20 дакладаў. Цікавую справаздачу з калёквіюму зьмясьціла газэта «Літаратура і Мастацтва» (17.VI).

Як падала газэта, «у часе сустрэчы выказваліся думкі, што выходзілі за межы калёквіюму: аб неабходнасьці ўзнаўленьня Жыровіцкай сэмінарыі і яе некалі багатай бібліятэкі, аб выданьні беларускага царкоўнага часапісу накшталт рускага і ўкраінскага, аб стварэньні ў Жыровічах спэцыяльнага музэю беларускай царкоўнай гісторыі й культуры. У кулюарах гаварылася аб патрэбе ў лекцыях для сьвятароў па сучаснай беларускай мове і яе гісторыі, аб магчымым выданьні Бібліі пабеларуску».

# НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ БЯЗ ЗНОЙДЗЕНАЕ МАГІЛЫ

**Гароты й міласэрнасьць Рагнеды (Гараславы)**

«На небасьхіле нашай беларускай гісторыі ў раньнім сярэднявеччы гарэлі дзьве надзіва яркія зоркі — Рагнеда і Ефрасіньня Полацкая. Дзьве вялікія жанчыны, роўні якім не знаходіш ва ўсім усходнім славянстве. Чаму-б у горадзе Заслаўі не паставіць помнік Рагнедзе? Тым больш, што ў 2000 годзе спаўняецца 1000 гадоў з дня сьмерці Рагнеды». — Леанід Дайнека, пісьменьнік, на пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі. «ЛіМ», 3.VI.88.

Усе, каму дарагая гісторыя, хочуць пабачыць на свае вочы магілы славутых прашчураў. Да іхнага ліку належыць і магіла Полацкае князігіні Рагнеды, былое жонкі хрысьціцеля Кіеўскіх земляў, князя Уладзімера. Але ў Беларусі шмат шанаваных магілаў, у якіх быццам-бы спачывае прысак Рагнеды, але ў якой зь іх запраўды пахаваная Гараслава (гэтак на Беларусі празвалі Рагнеду за ейную гаротную долю), сьцьвердзіць цяперашнім часам вельмі цяжка, калі наагул магчыма.

У 1866 г. археалягічная экспэдыцыя Маскоўскага ўнівэрсытэту дасьледавала магілу Рагнеды ў мястэчку Заслаўе Менскае губэрні. Дакапаліся да цаглянага склепу, у якім ляжала дарагая, багата арнамэнтаваная дамавіна. Але адчыніўшы аббітую знутра чырвонай парчой дамавіну, ніякіх мошчаў унутры яе не знайшлі.

У Заслаўі да прафэсароў і студэнтаў Маскоўскага ўнівэрсытэту падыйшоў сівы Беларус Язэп Кандыбайла і сказаў:

— Нашыя магілы й курганы раскопваеце? Сьвяты супакой мяртвых парушаеце? Але дарма шукаеце. Няма тут князігіні. Яна даўно ўжо прачнулася і ходзіць па ўсім нашым краі. Дзе чалавек пакутуе, дзе пакрыўджаныя людзі за праўду змагаюцца, там і Рагнеда.

У беларускім фальклёры ёсьць шмат легендаў пра ўваскрослую Рагнеду. Яе бачылі пасьля бітвы пад Грунвальдам, у 1410 годзе. Там палкі Крывічоў (прашчураў Беларусаў) на баку Вітаўта здабылі перамогу над нямецкімі рыцарамі. Рагнеду бачылі, як яна ішла па крывавым Дубровенскім полі, каб перавязаць параненых, зачыніць вочы забітым ды ўставіць запаленую сьвечку ў іхныя рукі. Ад тых часоў высокую прыгожую жанчыну зь непаражомным мечам бачаць у часе войнаў і няшчасьцяў.

Уладзімер хрысьціў Русь у 988 годзе. У тым-жа годзе Рагнеда сталася манашкай-чарніцай Анастасьсяй у нядаўна перад тым заснаваным жаноцкім манастыры. За год, у 989 г., маці-Анастасься памерла.

Беларускі празаік-эсэіст Юрка Віцьбіч піша: «Сплытчэлі рэчкі Княгінька й Чарніца. Высахла возера Рагнедзь... (усё гэта навакольле Заслаўя)... Нявычэрпную колькасьць паданьняў стварыў народ пра сваю Рагнеду, і мне ня стане жыцьця, каб іх пераказаць...».

Памяць пра Рагнеду несьмяротная, князігіня годная гэтага. Але дзе-ж усёткі ейная запраўдная магіла? Наконт гэтага ёсьць шмат здогадаў. Найбольш верыгодныя дзьве вэрсіі, хоць, як агульна ведама, ніякая вэрсія — ня довад...

Князь Уладзімер, прыняўшы хрысьціянства, ажаніўся з князёўнай Ганнай, роднай сястрою візантыйскіх імпэратараў Васіля й Канстантына. Да Рагнеды-ж, жонкі свае, ён сьціраваў паслоў, сказаўшы ёй:

— Я цяпер хрысьціянін, і законнай




*Малюнак Я. Куліка*

жонкай маёй сталася князёўна Ганна Царгародзкая. А табе, Рагнеда, раю выйсьці замуж за аднаго з прыбліжаных маіх.

— Мой сын Ізяслаў ніколі ня станецца пасынкам вялікакняскага слугі, — гэткі быў адказ Рагнеды пасланцом князя Уладзімера.

У Рагнеды было ад Уладзімера пяцёра дзяцей, дзьве дачкі й тры сыны: Ізяслаў, Мсьціслаў і Яраслаў.

Пераход Кіеўскага княства з паганства ў хрысьціянства Рагнеда ўхваліла, і народ, гэткім парадкам, успрыняў ейны пострыг як ахвярны вычын. Але, прынёсшы ў ахвяру сябе саму, Рагнеда не хацела ахвяраваць будучыняю сваіх сыноў, адмалку ўгаворваючы ім, што яны — праўныя спадкаёмцы вялікакняжага пасаду, прычым самыя вялікія спадзяваньні яна пакладала на старэйшага сына Ізяслава, якога Уладзімер пасадзіў на княскі пасад у Полацку.

Але ні Ізяслаў, ні Мсьціслаў вялікакняскага пасаду гэтак і не дасталі. Князем кіеўскім, гэта значыць валадаром Кіеўскае зямлі стаўся малодшы сын Уладзімера й Рагнеды, Яраслаў. Рагнеда ўважала, што Ярык не па гадох разумны, але занадта кніжнай мудрасьцяй захоплены.

Уладзімераў сын Яраслаў, стаўшы начале Кіеўскае зямлі, перамог у крывавай братазабойчай сварцы, праўдзівей, вайне брата Сьвятаполка (ад іншае Уладзімеравае жонкі), празванага ў летапісах Сьвятаполкам Акаянным за тое, што ён паздраднічку забіў братоў сваіх — Барыса, Сьвятаслава й Глеба. Братазабойчыя войны былі гэнымі часамі знакам эпохі.

Гэтак і сам Уладзімер, заняўшы княскі пасад у Кіеве, пераступіў праз трупы: брата свайго Яраполка ды Рагвалода, бацькі Рагнеды, разам зь ягонымі сынамі. Рагнеду Уладзімер узяў за жонку сіламоц, супраць ейнае згоды. А яна казала: «Не хачу разуваць рабыніча, а зь Яраполка бот здыму». Паводля славянскага звычаю, дзяўчына, здымаючы бот з нагі мужчыны, давала згоду стацца ягонай нарэчанай.

Рабынічам пагардліва называў Уладзімера той-жа Яраполк: Уладзімер — сын князя Сьвятаслава й ключніцы князігіні Вольгі Малушы, якую бацька Уладзімераў Сьвятаслаў зрабіў сваёй каханкай.

Рагнеда да таго ненавідзіла Уладзімера, нават па нараджэньні іхнага сына Ізяслава, што спрабавала закалоць свайго мужа мечам, калі ён спаў. Уладзімер, адбіўшы напад, хацеў забіць Рагнеду, але адпусьціўся, калі ягоны васьмігадовы сын Ізяслаў рынуўся на бацьку зь мечам.

Лятунак Рагнеды аб тым, каб ейныя сыны аднавілі свае законныя правы на вялікакняжы пасад, ужыцьцёвіў, па ейнай сьмерці ўжо, ейны малодшы сын Яраслаў.

Стаўшыся князем князёў і трывала ўмацаваўшыся на Кіеўскім злататроне, Яраслаў сьвята шанаваў памяць свае маці ды шмат што зрабіў для Полацкага княства. У гэтым яму памагала ягоная ўлюбёная дачка Елізавета, унучка Рагнедзіна. Яна яшчэ перад замужжам наведвалася ў Полацак, і ёсьць гіпатэза, што яна зь ведама бацькі, перанесла прысак чарніцы Анастасьсі, бабкі свае, з Полацку ў Кіеў. Але гэта толькі гіпатэза, а не дакладна ўстаноўлены навукаю факт. А пра Елізавету гаварылі, што яна і целам і норавам — вылітая Рагнеда.

Елізавета частавата наведвалася ў Полацкае княства і знаёмілася зь людзьмі, што зналі Рагнеду перад пострыгам і пасьля, калі яна сталася чарніцай Анастасьсяй. Рагнеда, як выяўляецца, дамагалася праўды, гонару й законнасьці і для нізоў і для вярхоў. Сумленьне й гонар, на думку Рагнеды, аднолькава патрэбныя і князю і аратаму-земляробу.

Доля ўнучак Рагнеды запраўды цікавая. Ганна сталася каралевай Францыі, Анастасься — каралевай Вэнгрыі, а Елізавета, тая, што целам і норавам — вылітая Рагнеда — нарвэскай каралевай. Ейнае рукі доўга дамагаўся выдатны скандынаўскі мораплавец, гэрой морскіх бітваў і скальд (пясьняр) Гаральд Сьмелы. Елізавета доўга адкідала яго, але пасьля сталася ягонай жонкай, калі Гаральд пачаў дамагацца правa на каралеўскі пасад і калі вялікі князь Кіеўскі Яраслаў падтрымаў яго ў гэтых прэтэнсіях. Жаніцтва, заключанае з дыпляматычным разьлікам, абярнулася ў жанімства вялікага разьдзеленага каханьня. Доля Елізаветы й Гаральда нагадвае рыцарскі раман, толькі дакумэнтальны.

Елізавета казала пра дабрадзейны ўплыў Рагнеды на ейнага бацьку Яраслава, калі той быў яшчэ дзіцём. Яраславу таксама даводзілася весьці крывавыя братазабойчыя войны і жорстка змагацца за захаваньне ды ўмацаваньне ўлады свае. Але калі Уладзімер хрысьціў Русь, дык сын ягоны Яраслаў разьвіў, пашырыў і павёў далей справу распаўсюджаньня хрысьціянства на Русі. Ён рупіўся аб пашырэньні пісьменнасьці й асьветы. Ён гэтак сябе паставіў, што бізантыйскія і эўрапейскія валадары гаварылі зь ім на роўных. Ён паслабіў змаганьне за ўладу паміж роднымі братамі, спрыяў царкоўнаму ўшанаваньню несправядліва забітых братоў сваіх Барыса й Глеба, узьведзеных у сан сьвятых.

У запавеце сваім Яраслаў пісаў:

«Калі хто хоча пакрыўдзіць брата, дык ты памажы пакрыўджанаму... Я адыходжу з гэтага сьвету, дзеці. Любеце-ж адзін аднаго, бо вы браты родныя, ад аднаго бацькі й аднае маці. Калі будзеце жыць у любасьці міжсобку, дык Бог будзе з вамі. Ён пераможа ўсіх ворагаў і будзеце жыць у міры. Калі-ж пачняце ненавідзець адзін аднаго, сварыцца, дык і самі зьгінеце і загубіце зямлю бацькоў і дзядоў вашых, якую яны набылі працай сваёй вялікай. Дык-жа жывеце мірна, давараючы адзін аднаму».

Гэтак казаў вялікі князь Кіеўскі Яраслаў, які глыбака шанаваў памяць свае маці Рагнеды. Рагнеда заслужыла ў гісторыі права ня несьмяротнасьць хоць ейная запраўдная магіла дагэтуль ня знойдзеная.

**Вячаслаў Завалішын**

**НА 1000-ГОДЗЬДЗІ Ў ВАШЫНГТОНЕ**

Айцец Ал. Надсон і сп. Гай Пікарда ўзялі ўдзел у вялікай міжнароднай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне (26-28.V), арганізаванай Кенанскім Інстытутам вывучэньня СССР і Кангрэсавай Бібліятэкай. Даклад а. Надсона быў на тэму беларускіх выданьняў XVI ст., а сп. Пікарды — пра асаблівасьці беларускіх рэлігійных напеваў ды пра рэлігійную творчасьць беларускіх кампазытараў.

***ГАЗЭТА «БЕЛАРУС» — ЛУЧНІК З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ І МЕСЦА ДАКУМЭНТАЦЫІ ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНАЕ БЕЛАРУСІ — ВЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ. ЗА ГЭТА ІМ ПАДЗЯКА І СЛАВА.***

# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

Сустрэча адбудзецца ў сыботу-нядзелю-панядзелак 3-5 верасьня ў Таронце. Рэгістрацыя гасьцей і адчыненьне Сустрэчы — у сыботу ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры, 524 St Clarens Avenue. Баль Сустрэчы — таго-ж дня ў гасьцініцы Skyline Triumph Hotel, 2737 Keele St (North of 401), Toronto, Ont. M3M 2E9. Tel.: 1-800-268-1332. У тэй-жа гасьцініцы ў нядзелю, па багаслужбе ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага, адбудзецца банкет.

Даклады ў сыботу й нядзелю будуць прысьвечаныя: 400-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага; 150-годзьдзю ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага; 1000-годзьдзю хрысьціянства ў Беларусі, абароне беларускае мовы й абароне М. Кукабакі.

У панядзелак адбудзецца паломніцтва ў сьвятое месца Мучанікаў у Мідленьдзе, дзе будзе высьвечаны Беларускі Крыж.

На Сустрэчы, апрача Беларусаў з Канады й ЗША, будуць суродзічы зь Беласточчыны, Аўстраліі, Ангельшчыны, Гішпаніі ды зь іншых краёў.

Замаўляючы пакой у гасьцініцы Скайлайн-Траюмф, каб дастаць зьніжку, трэба зазначаць, што рэзэрвацыя была зробленая Згуртаваньнем Беларусаў Канады (Byelorussian-Canadian Alliance) для Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Зь Нью-Брансьвіку ў Таронта будзе аўтобус. Месцы трэба замаўляць загадзя. Нумар тэлефону: 201-545-6654.

# МАЛІТВА, РОЗУМ І РОДНАЯ МОВА

**(Рэфэрат др. Янкі Запрудніка на сьвяткаваньні 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі 5 чэрвеня 1988 г. ў Гайленд-Парку, Н.-Дж.)**

Чалавек складаецца з памяці і, каб захаваць памяць, адзначае ўгодкі. Прызначэньне юбілеяў у жыцьці грамадзтва — трымаць жывой памяць, асьвяжаць яе, бо мы чэрпаем мудрасьць з таго, што было; бо тое, што было, павінна памагаць нам разумець тое, што ёсьць, а часамі — і тое, чаго няма.

У рэлігійным жыцьці Беларусаў на Бацькаўшчыне, праваслаўных і каталікоў, няма месца роднай мове. Што горш, у шмат каго няма разуменьня ненармальнасьці такога стану рэчаў, няма разуменьня патрэбы роднае мовы для лучнасьці з Богам, няма ўсьведамленьня, што русыфікацыя й палянізацыя рэлігійнага жыцьця Беларусаў — зьява ў існасьці антыхрысьціянская. Яна вымагае аналізу.

Мы баронім сваю мову перш-наперш у моц эмацыянальных імпульсаў, бо мы пачуцьцёва зьвязаныя з роднай мовай. Але адваеўваць функцыянальнасьць роднай мове ўва ўсіх сфэрах жыцьця, у тым ліку й рэлігійнай, трэба чым далей тым больш рацыянальнымі аргумэнтамі, лёгікай, спасылкамі на гісторыю й на розум.

Чым сёньня трэба пераконваць нясьведамага Беларуса ў патрэбе ўжываньня роднай мовы для лучнасьці з Богам, у багаслужбе? Шукайма адказу на гэтае пытаньне ў хрысьціянскай традыцыі. І карыстаймася ў гэтых шуканьні розумам, бо калі мы сьвяткуем Дзень Нараджэньня Хрыста, мы сьпяваем: «Рождество Твоё, Христе Боже наш, возсия мирови свет *разума*». Заўважце, што ў сваіх царквах мы ўсё яшчэ сьпяваем гэты трапар, як і бальшыню багаслужбы, пацаркоўнаславянску. Чаму? Чаму, пражыўшы больш за сорак гадоў на эміграцыі ў абставінах свабоды, мы дасюль яшчэ не беларусізавалі поўнасьцяй багаслужбы? Праўда, часткава беларусізацыя праробленая ўжо. Ды адно часткава. Гэтак, прыкладам, сёньня Ўладыка Мікалай і а. Міхась Страпко чыталі нам Евангельле пабеларуску, мы сьпявалі пабеларуску «Ойча наш». Мінулае нядзелі а. Аляксандар Надсон адслужыў у Нью-Ёрку (а сёньня служыць у Чыкага) літургію поўнасьцяй пабеларуску. Але ў бальшыні беларускіх праваслаўных царкваў на эміграцыі багаслужбы адбываюцца ў царкоўнаславянскай мове. А мы-ж пагаджаемся, быццамбы, на тым, што маліцца трэба пабеларуску. Адкуль гэткая непасьлядоўнасьць? Часткава гэта сьветчыць аб трываласьці традыцыі (традыцыю, пэўна-ж, трэба шанаваць), часткава — аб тым, што ў нас ня было кваліфікаваных сілаў, каб прарабіць гэтую вельмі складаную й адказную працу — перакласьці малітвы й цэлую багаслужбу ў сучасную беларускую мову. Але трэба прызнаца, што ня ўсе мы самыя на сто працэнтаў перакананыя, што нам трэба маліцца ў нашай штадзённай мове. Хоць увесь заходні сьвет сёньня моліцца ўжо ў нацыянальных мовах.

І вось тут трэба йсьці ў галаву па розум — «Нараджэньне тваё, Хрысьце Божа наш, зазьзяла сьвету сьвятлом розуму».

Што гэта — малітва? Паводля сьв. Яна Дамаскіна, вялікага багаслова з восьмага стагодзьдзя, малітва — гэта «ўздыманьне розуму й сэрца да Бога». І запраўды, малітва мае ў сабе элемэнт рацыянальнага (усякая думка павінна выказваца лягічна) і элемэнт містычнага (у гэтым сьвеце заўсёды будуць зьявы, якія чалавек ня ў стане зразумець).

Вось-жа Прыйсьце Хрыста забавязвае нас быць рацыянальнымі: навуку Хрыстовую, традыцыю хрысьціянскую трэба перш-наперш *разумець*. Карыстацца розумам забавязвае нас і Сьв. Евангельле. Апостал Павал у пасланьні да Карыньцянаў кажа: «Бо калі я малюся ў незнаёмай мне мове, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным. Дык што-ж? Буду маліцца духам, буду маліцца розумам; буду пяяць духам, буду пяяць розумам. Бо, калі ты будзеш багаславіць духам, дык як той, хто стаіць на месцы простага чалавека, можа сказаць 'Амін' на тваё дзякаваньне? Бо ён не разумее, што ты гаворыш» (14:14-16).

Усхваляў розум і наш слаўны прашчур сьв. Кірыла Тураўскі: «Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего же добрее книгий разум: сия убо суть сокровица вечныя жизни» (Салодкія мёдавыя соты й добры цукар, але лепшы за іх кніжны розум, бо ў ім скарбы жыцьця вечнага).

Вось-жа трэба ведаць, што «книгий разум» прыйшоў да нас дзякуючы хрысьціянству і прыйшоў у *гутаркавай* мове Славянаў. Вялікія місіянеры сьвятыя Кірыла й Мятод, перакладаючы ў другой палавіне дзявятага стагодзьдзя царкоўныя кнігі, дзеілі згодна з навукаю Апостала Паўла, які ў пасланьні да Філіпянаў пісаў: «Дзеля гэтага і Бог узвысіў Яго,.. каб перад імём Ісуса пакланілася ўсякае калена нябесных, зямных і падземных, і каб усякі язык (мова, народ — Я. З.) вызнаваў, што Госпад — Ісус Хрыстос, у славу Бога Айца» (2:9,11).

Навукоўцы сёньня спрачаюцца, у які дыялект славянскага «языка» сьв. Мятод пераклаў Евангельле — баўгарамакедонскі, мараўскі ці сэрбскі. Якіб той дыялект ні быў, ён быў — што важна для нашага аргумэнту сёньня — мовай гутаркавай, штадзённай, жывой — і зразумелай тым, для каго яна прызначалася. Для беларускіх плямёнаў (Крывічоў, Дрыгвічоў і Радзімічаў) мова гэтая магла быць асабліва блізкой, бо, як пісаў гісторык праф. Мітрафан Даўнар-Запольскі, частка Дрыгвічоў у часе Вялікага перасяленьня народаў адлучылася ад свайго племені ды зайшла на Балканы, дзе пасялілася ў раёне Салонікаў. Грэкі звалі іх Дрэгувітамі. Паводля Даўнара-Запольскага, мовы Дрэгувітаў навучыліся два грэцкія браты Канстантын (Кірыла) і Мятод, што сталіся пасьля Славянскімі Апосталамі. У гэным далёкім часе ня было наагул вялікай розьніцы паміж дыялектамі Славянаў. Як пісаў летапісец у XI стагодзьдзі: «А словенский язык и русский — одно есть».

Сьвятыя Кірыла й Мятод, карыстаючыся ў пашыраньні Хрыстовае навукі гутаркавай мовай Славянаў, вялі далей і замацоўвалі практыку, што склалася была перад імі ўжо. Хрыстос навучаў паарамэйску. Апостал Павал свае пасланьні пісаў пагрэцку. Тады-ж мовай пашырэньня хрысьціянства сталася таксама мова лацінская. І ўсе тры мовы былі тады мовамі звычайных людзей, мовамі штадзённага жыцьця. Лацінскі пераклад Бібліі, зроблены сьв. Ярэмам у другой палавіне IV ст., ведамы як Вульгата (vulgata edito — папулярнае выданьне; vulgus значыць «звычайныя людзі», «натоўп»). Значыцца, раньняя традыцыя хрысьціянства — гаварыць аб Богу і да Бога моваю звычайных людзей. Яно інакш і быць не магло (дый не павінна быць): каб чалавек (народ) мог маліцца і духам і розумам, каб розум у часе малітвы (багаслужбы) не заставаўся бясплодным, ён мусіць карыстацца блізкай яму роднай мовай. А мы? Шмат мы разумеем, калі сьпяваем або чуем у царкве: «Иже херувимы тайно образующе...»?

Гэтым сваім неразуменьнем мы й розьнімся ад нашых далёкіх прашчураў, якія маліліся ў іхнай штадзённай мове, ды молячыся, пяючы хвалу Богу, *разум-мелі*.

Пра гэтую патрэбу разуменьня малітвы й багаслужбы нагадаў нам Францішак Скарына, калі ў 1517 годзе пачаў друкаваць пераклад Бібліі ў мове свайго «люду паспалітага». І зрабіў гэта Скарына, як ён сказаў у прадмове да «Псалтыра», «наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог з того языка на свет пустил».

Вось гэтак: у якой мове чалавек «на сьвет пушчаны», у гэткай і Богу трэба маліцца.

Малітва (у тым ліку й багаслужба), нагадайма яшчэ раз азначэньне сьв. Яна Дамаскіна, гэта — «уздыманьне *розуму* й сэрца да Бога». Розум-жа функцыянуе найлепш, найпаўней у роднай мове, у мове, у якой і кожнае слова зразумелае і традыцыі замацаваныя ды перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне. Значыцца, і навука Хрыстовая, каб найлепш даходзіць да сьведамасьці чалавека, павінна прыходзіць да яго ў ягонай роднай мове. Чалавек у лучнасьці з Тварцом сваім і са сваім Збаўцам Ісусам Хрыстом павінен быць у паўніні свае нацыянальнае культуры, каб лучнасьць была як найпаўнейшай. Вось чаму калі русыфікатары й палянізатары перагароджваюць Беларусу доступ да навукі Хрыстовае ў беларускай мове, яны бяруць на сябе *грэх лёгацыду*. Ёсьць генацыд і ёсьць этнацыд. Цывілізаванае грамадзтва асуджае іх. Гэтак вось Царква павінна асудзіць лёгацыд — словагубства, здушваньне Роднага Слова, безь якога чалавек ня можа мець поўнае лучнасьці з Богам. Гэта-ж у Евангельлі сказана: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова» (Ян I:1). Лёгацыд павінен быць абвешчаны сьмяротным грэхам.

Францішак Багушэвіч пісаў у 1891 годзе ня толькі як беларускі нацыяналіст, але й як добры хрысьціянін: «Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам». «Гаворка, язык — адзежа душы», сказаў той-жа Францішак Багушэвіч. Каб душа Беларуса была ў кантакце зь ягоным Тварцом, каб знаходзілася ў найцясьнейшай лучнасьці са сваёй Першакрыніцай збаўленьня, душы патрэбная *свая* адзежа, *свая* мова. І той, хто пазбаўляе душу Беларуса ейнае прыроднае адзежы, роднае мовы, той ідзе супраць хрысьціянскае традыцыі, у якой гістарычна замацаваўся прынцып: кожны народ гаворыць з Богам сваёй мовай. Вось чаму русыфікацыя й палянізацыя Беларусаў — справа ня толькі амаральная, антыгуманная, але й антыхрысьціянская.

**Янка Запруднік**

# ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ



*Паніхіду пры помніку Гэроям Беларусі служыць а. Васіль Андраюк. У сьцяжной варце (зьлева): Віктар Дубяга, Адольф Субота, Мікола Абрамчык і Лявон Шурак. Фота Алега Дубягі.*

Нью-Брансьвік, Н.-Дж. — Аддзел Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў урачыста адзначыў вэтэранскі Дзень Памяці пры помніку Беларускім Гэроям, што ў Іст-Брансьвіку. Урачыстасьць адбылася ў панядзелак 30-га травеня. Вэтэраны ўзьнялі на высокія машты амэрыканскі й беларускі сьцягі, злажылі вянок пры помніку. Паніхіду па палеглых адслужыў а. Васіль Андраюк. Царкоўным ня поўным хорам кіраваў вэтэран амэрыканскай арміі Леў Стагановіч. Пасьля паніхіды ўдзельнікі прапяялі жалобны марш «Спі пад курганам гэрояў». Каманьдзер ЗБАВ маёр Сяргей Гутырчык шчыра падзякаваў а. Васілю за адслужэньне паніхіды і ўсім, што прыбылі аддаць пашану палеглым, ды запрасіў на пачастунак. У сваёй казані а. Васіль падкрэсьліў патрэбу ўшаноўваньня памяці змагароў.

На паніхідзе былі прысутныя: найстарэйшы вэтэран і былы віцэ-прэзыдэнт Рады БНР Аляксандар Стагановіч із спадарыняй, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Амэрыцы інж. Юрка Азарка, былы старшыня сэктару Рады БНР у Нью-Джэрзы Васіль Стома, цяперашні старшыня сэктару Рады БНР ды іншыя.

Пачастунак зарганізавалі вэтэраны супольна з сэктарам Рады БНР у грамадзкай залі ў Гайленд-Парку на ўшанаваньне памяці адышоўшага ў вечнасьць 18 гадоў таму прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка. Цікавымі ўспамінамі пра Нябожчыка падзяліўся старшыня сэктару Рады БНР, а дапоўніў іх пляменьнік прэзыдэнта лейтэнант Мікола Абрамчык.

**Сяргей Пчала**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| Беларусы Кліўленду | ам.д. 500 |
| М. Скабей | 100 |
| У. Набагез | 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| К. Калоша | 50 |
| Б. Лішчонак | 50 |
| М. Смаршчок | 50 |
| Я. А. | 20 |
| М. К. | 10 |
| С. Гутырчык | 25 |



*Удзельнікі сьвяткаваньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі перад царквою Жыровіцкай Маці Божай у Кліўленьдзе.*

## ДЗЕНЬ МАЦІ

Парафіяльная рада царквы Жыровіцкае Божае Маці адзначыла Дзень Маці 8 травеня. Пасьля літургіі настаяцель прат. Міхась Страпко адправіў малебен за матак, сказаў прыгожую казань, падкрэсьліваючы вялікае значэньне маці ў сямейным жыцьці, у ўзгадоўваньні дзяцей, гаварыў пра нялёгкі лёс нашых матак як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі.

У царкоўнай залі быў наладжаны пачастунак, на якім маткі былі ганаровымі гасьцямі. Дзеці ўручылі сваім маткам вазоны з кветкамі. У часе абеду старшыня парафіяльнае рады Сяргей Карніловіч прывітаў матак ад імя парафіі зь іхным днём, падкрэсьліў вялікую ахвярную працу іх у імпрэзах розных арганізацыяў беларускае калёніі, пажадаў ім добрага здароўя.

## РЭЛІГІЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ

Парафія Жыровіцкае Божае Маці адсьвяткавала 22 травеня дзьве гадавіны: сьвята патронкі й 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі.

Сьвята патронкі пачалося ўраньні архірэйскай літургіяй, якую ачоліў Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, у суслужэньні сьвятароў: настаяцеля прыходу прат. Міхася Страпка, прат. Васіля Андраюка з парафіі ў Гайленд-Парку ды мітр. прат. Аляксандра Радэнковіча з сэрбскай царквы. Служба прайшла вельмі ўрачыста, было шмат вернікаў, хор прыгожа выконваў малітоўныя напевы. Арх. Мікалай сваю красамоўную казань прысьвяціў тэме важнасьці царквы, праваслаўнай рэлігіі ды сьвята патронкі. Быў адслужаны малебен з урачыстай працэсіяй навокал царквы. Пасьля службаў прат. М. Страпко падзякаваў духавенству, гасьцям ды парафіянам за ўдзел у сьвяткаваньні.

Папаўдні ў гасьцініцы Галыдэй Ін адбыўся банкет, прысьвечаны 1000-годзьдзю хрысьціянства. Урачыстасьць адчыніў старшыня парафіяльнае рады С. Карніловіч, прывітаўшы прысутных ды прадставіўшы кіраўніка праграмы мгр. Васіля Плескача з Дэтройту. Сп. Плескач прадставіў сходу ўсіх за галоўным сталом — духавенства, матушак, старшыняў арганізацыяў ды галоўнага дакладчыка праф. Томаса Бэрда з Гарадзкога Ўнівэрсытэту Нью-Ёрку. Рэфэрат праф. Бэрда пра хрысьціянства ў Беларусі быў добра апрацаваны й выслуханы зь вялікаю ўвагаю. Былі перададзеныя прывітаньні ад парафіяў БАПЦ ў Тароньце, Гайленд-Парку, Дэтройце, Дораты, ад прыходу царквы Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле. Віталі таксама прысутных гасьцей з Таронта, Ашавы, Дэтройту, Чыкага, Нью-Джэрзы, Нью-Ёрку, Беласточчыны.

Апошнім пунктам праграмы была мастацкая частка, у якой выступіў шырака ведамы беларускі сьпявак Данчык Андрусышын зь Нью-Ёрку, які пад гітару выканаў тры беларускія песьні, што захапілі ўсіх слухачоў ды выклікалі бурныя воплескі. Затым неспадзявана выступіў новы саліст зь гітараю з Чыкага (зь Беласточчыны) Юрка Мазурак, які добра выканаў тры беларускія песьні, за што зьдзіўленая аўдыторыя ўзнагародзіла яго моцнымі воплескамі.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем малітвы.

**К. П.**

# ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ




**MILLENNIUM OF CHRISTIANITY IN BIELARUS**

*Кніжная закладка — юбілейнае выданьне Багдана Паўка ў Чыкага.*

## ШТО ЗАБАРОНЕНА ЦАРКВЕ Ў СССР?

У інтэрв'ю газэце «Голас Радзімы» (19.V.88) Мітрапаліт Мінскі й Беларускі Філарэт, які займае становішча Старшыні аддзелу вонкавых сувязяў Маскоўскага Патрыярхату, прызнаўся, што ў СССР «паасобныя выпадкі парушэньня правоў веруючых здараюцца, але гэта, — зазначыў Філарэт, — не адлюстраваньне палітыкі дзяржавы ў дачыненьні да Царквы. Якая-ж тая палітыка дзяржавы? Што яна Царкве дазваляе, а што забараняе?

Вось пералік забаронаў рэлігійнай грамадзе, дадзены ў кнізе аўтарытэтнага ў пытаньнях рэлігіі праф. Мікалая Гардыенкі «Современное русское православие» (Лениздат, 1987, б. 142). У Савецкім Саюзе рэлігійнай грамадзе *забараняецца*: «ствараць касы ўзаемадапамогі, каапэратывы, вытворчыя аб'яднаньні і наагул карыстацца маемасьцяй, якую яны маюць, для нейкіх іншых мэтаў, апрача задавальненьня рэлігійных патрэбаў; даваць матар'яльнае падтрыманьне сваім сябром; арганізаваць як спэцыяльна дзіцячыя, юнацкія, жаноцкія, малітоўныя ды іншыя сходы, гэтак і біблейскія, літаратурныя, рукадзельныя, працоўныя, для вывучэньня рэлігіі й да таго падобныя сходы, групы, гурткі, аддзелы, а таксама наладжваць экскурсіі й дзіцячыя пляцоўкі, адчыняць бібліятэкі й чытальні, арганізаваць санаторыі й лячэбную дапамогу».

Уся гэткая дзейнасьць *забароненая законам*. Цяпер рэлігійнае заканадаўства пераглядаецца, але якія будуць вынікі гэтага перагляду, ніхто ня ведае.

## *ПРЫКЛАДАМ ЗАМЕЖНЫХ БЕЛАРУСАЎ*

Газэта «Чырвоная Зьмена» (7.VI.88) зьмясьціла допіс інжынера В. Завадзкага з Маладэчна. Завадзкі, даведаўшыся з газэты «Літаратура і Мастацтва» пра Беларускі музэй у Гайнаўцы і пра тое, што дапамогу на пабудову музэю даюць «ня толькі Беларусы зь Беласточчыны, але й з усёй Польшчы, і нават сьвету», піша:

«Мяне вельмі зьдзівіла, што пра гэта нічога не вядома ў нас — у Беларусі. Пра што сьветчыць такі факт: з капіталістычных краін на будаўніцтва музэю паступіла 5500 даляраў, а з усёй Беларусі — усяго толькі 200 рублёў...».

На прапанову Завадзкага газэта «Чырвоная Зьмена» падала нумар конта, на якое можна перасылаць грошы з БССР, ды паведаміла, што пра Беларусаў у Польшчы інфармуе выдаваная ў Беластоку газэта «Ніва». На «Ніву», паводля «Чырвонай Зьмены», «можна падпісацца ў любым аддзяленьні 'Саюздруку'». Але нам ведама, што колькасьць экзэмпляраў, якую Беларуска-Грамадзкае Таварыства ў Польшчы можа пасылаць у БССР, абмежаная Саветамі да 300. Яшчэ адна праява русыфікатарскае палітыкі савецкае ўлады на Беларусі.



*На Славянскім фэстывалі ў Пэнсыльванскім Штатавым Унівэрсытэце арганізатары беларускае мастацкае выстаўкі (зьлева): Раіса Станкевіч, Антон Шукелайць, Гэлена Шуст, праф. Лёрэйн Капітанава (арганізатар фэстывалю); за сталом сядзіць народны ўмелец Мікола Шуст, які дэманстраваў на выстаўцы інкруставаньне саломкай. У лісьце падзякі сп. Шусту праф. Капітанава, адзначыўшы нязвычайную папулярнасьць беларускага стэнду, запрасіла сп. Шуста ўзяць удзел у наступным фэстывалі.*

## *ПРА БЕЛАРУСЬ У ШКОЛАХ НЬЮ-ДЖЭРЗЫ*

Губэрнатарская камісія, якая займаецца вывучэньнем падручнікаў у школах штату Нью-Джэрзы (ад Беларусаў у камісію ўваходзіць др. Вітаўт Кіпель), разаслала сярэднім школам апытальнік, каб выявіць, на якім узроўні вывучаюцца ў школах 17 краінаў Усходняе Эўропы, у тым ліку й Беларусь. Паводля апытальніка, Беларусь вывучаецца дэталёва ў 7-х школах, «агульныя весткі» пра Беларусь даюцца ў 62-х школах, а ў 143-х школах пра Беларусь «дэталёвых вестак» не даецца, а вучні даведваюцца пра яе агульна, як і пра Арменію, Баўгарыю ды Балтыцкія краіны.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы*

## НА КАНФЭРЭНЦЫІ СЛАВІСТАЎ

Сп-ня Зора Кіпель, заступніца загадчыка Славянскага аддзелу Нью-ёркскае Публічнае Бібліятэкі, мела даклад на канфэрэнцыі Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістаў, што адбылася 16 красавіка ў Штатным Унівэрсытэце Нью-Ёрку ў гор. Олбаны. Тэма дакладу: «Роля амэрыканскіх бібліятэкаў у перахоўваньні й папулярызацыі этнічных культураў». У дакладзе сп-ня Кіпель гаварыла пра пэрыядычна ладжаныя Ньюёркскай Публічнай Бібліятэкай выстаўкі беларускіх выданьняў і дакумэнтаў, як прыклад папулярызацыі этнічнае спадчыны ў Амэрыцы.

### ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ДОРАТЫ

Мітр. прат. а. Карп Стар адзначыў урачыстай багаслужбай 29-га травеня Дзень патронкі свае Сьвятатроіцкае парафіі БАПЦ у Дораты, Н.-Дж. Надвор'е выпала цудоўнае. На ўрачыстасьць прыбыло шмат людзей, каб ня толькі падзяліць з а. Карпам радасьць сьвята, але й адзначыць ягоныя 75-я ўгодкі жыцьця ды шматгадовае самаахвярнае службы Богу й БАПЦ. У часе багаслужбы прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп-ні Тані Марыноўскай. На супольным абедзе парафіяне й госьці шчыра віталі дарагога юбіляра зь ягонымі ўгодкамі. Сп. В. Русак ад імя Кансысторыі БАПЦ й прыходу Жыровіцкае Маці Божае у Гайленд-Парку перадаў а. Карпу найлепшыя пажаданьні, адзначыў ягоную глыбокую веру й адданасьць сваім прыхаджанам.

Вялікай неспадзеўкай на сьвяткаваньні было выступленьне жаноцкага трыё ў складзе сп-няў Тані Марыноўскай, Лены Дадуравай і Кацярыны Колцавай. Сьпявачкі выканалі шэраг чыста народных ды некаторыя сатырычныя песьні палітычнага зьместу. Выступ трыё быў сустрэты з захапленьнем.

Сьвяткаваньне яшчэ раз паказала, які важны царкоўны асяродак — парафія БАПЦ у Дораты ў штаце Нью-Джэрзы.

### БАГАСЛУЖБА АЙЦА АЛ. НАДСОНА

У Нью-Ёрку 29 травеня мітр. прат. а. Аляксандар Надсон адслужыў літургію, поўнасьцяй перакладзеную ў беларускую мову. Багаслужба адбылася ў абноўленай залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Хор сьпяваў пад кіраўніцтвам сп. Гая Пікарды. Трэба прызнаць, што багаслужба пабеларуску ўспрыймаецца паўней, бо лепш разумеецца. Тыя, хто чуў яе ўпяршыню, казалі, што багаслужба гучыць вельмі добра.

У сваёй казані а. Аляксандар гаварыў пра дар Сьвятога Духа, якому прысьвечанае сьвята Тройцы.

### ЮБІЛЕЙ ХРЫСЬЦІЯНСТВА Ў ГАЙЛЕНД-ПАРКУ

Парафія царквы Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж., урачыста адзначыла 5-га чэрвеня Дзень патронкі ды разам зь ім і 1000-гадовы юбілей хрысьціянства ў Беларусі. На сьвяткаваньне прыбыў Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, які адслужыў урачыстую літургію ў суслужэньні айцоў Карпа Стара, Міхася Страпка ды Васіля Андраюка. Прыслужвалі іпадыяканы Генадзь Дубяга й Сьцяпан Дубяга.

Казань сваю Ўладыка Мікалай прысьвяціў тэме раньніх кантактаў беларускіх плямёнаў з хрысьціянскім сьветам. Ёсьць пэўныя асновы меркаваць, што кантакты гэныя былі яшчэ перад хрышчэньнем Кіеўскае Русі, што хрысьціянскія ўплывы ішлі на Беларусь з Захаду. Аднэй зь першых хрысьціянак на Беларусі была княгіня Рагнеда, жонка князя Ўладзімера, якая, калі князь, прыняўшы хрысьціянства, пакінуў яе, каб ажаніцца зь сястрою бізантыйскага імпэратара, сталася чарніцаю й пайшла ў манастыр. Тады ўжо, значыцца, былі манастыры ў Беларусі.

Пасьля багаслужбы й крэснага ходу, у прыгожа ўдэкараванай царкоўнай залі за сьвяточнымі сталамі із смачнай ежай (дэкаравалі залю й рыхтавалі ежу сп-ні Т. Януш, М. Дубяга, М. Азарка, А. Даніловіч, закупы рабіла Ж. Дубяга) адбыўся супольны абед. Сп. В. Русак прывітаў Уладыку Мікалая й духавенства, адзначыў вялікія заслугі а. Карпа Стара ў жыцьці парафіі, прывітаў новага руплівага сьвятара царквы а. Васіля Андраюка ды прадставіў прысутных на залі старшыняў арганізацыяў і гасьцей. У часе абеду др. Я. Запруднік прачытаў рэфэрат на тэму «Малітва, розум і родная мова», які быў выслуханы зь вялікай увагай (тэкст дакладу гл. у гэтым нумары).

### ВЕЧАР У БІНіМ

З нагоды выхаду кніжкі «Беларускі Трыстан» (пераклад у ангельскую мову сп-ні Зоры Кіпель) Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва наладзіў 18 чэрвеня ў Фундацыі П. Крэчэўскага навуковы сход. На вечар прыбылі сябры Інстытуту й запрошаныя госьці, каб абмеркаваць выданьне, выслухаць даклад сп-ні З. Кіпель пра беларускую літаратуру XVI стагодзьдзя.

Старшыня БІНіМ др. В. Кіпель, адчыняючы сход, а разам зь ім і сэзон навуковых зборак, выказаў падзяку сп. Францішку Бартулю, старшыні Фундацыі П. Крэчэўскага, за аднаўленьне й пабольшаньне залі Фундацыі, дзе цяпер вельмі добра можна праводзіць розныя імпрэзы.

Др. Я. Запруднік, гаворачы пра выхад кніжкі «Беларускі Трыстан», адзначыў выдатную работу, праробленую Зорай Кіпель ня толькі як перакладніцай, але й як дасьледніцай літаратурных і стылістычных асаблівасьцяў адзінага сярод Славянаў беларускага варыянту клясычнага сярэднявечнага раману «Трыстан і Ізольда».

Праф. Томас Бэрд гаварыў аб прэстыжнасьці сэрыі, у якой «Беларускі Трыстан» выйшаў, ды паведаміў, што, дзякуючы выхаду гэтай кнігі, сп-ня З. Кіпель была запрошана напісаць пра беларускага «Трыстана» для спэцыяльнае хрэстаматыі, у якой будуць змешчаныя і іншыя варыянты гэтага твору, а таксама, што пра «Беларускага Трыстана» будзе пададзена цяпер у спэцыяльнай энцыкляпэдыі, прысьвечанай артураўскім легендам.

Сп-ня Зора Кіпель расказала аб сваёй працы над перакладам раману, зрабіла аналіз гэтага твору і дала абраз беларускае літаратуры XVI ст., літаратуры вельмі багатае на перакладныя творы ня толькі рэлігійнага й апакрыфічнага, але й сьвецкага характару, якія паказваюць на шырокую сувязь Беларусі тае пары з Заходняй і Паўдзённай Эўропай. У беларускай савецкай літаратуразнаўстве, сказала дакладчыца, вывучэньне гэтае багатае спадчыны праводзіцца вельмі марудна.

Па дакладзе адбылася жвавая дыскусія.

### УГОДКІ НАРАДЗІНАЎ

Сябры й супрацоўнікі праф. Антона Адамовіча, працаўніка беларускага аддзелу радыё «Свабода», 24-га чэрвеня запрасілі сп. Адамовіча з нагоды ягонага 79-годзьдзя (26-га) на супольны абед ды перадалі яму пры гэтай нагодзе невялікі падарунак, як знак пашаны й добрых пажаданьняў.

---

Самаахвярнаму грамадзкаму й рэлігійнаму дзеячу, аднаму з закладчыкаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, беларускаму прадстаўніку ў арганізацыі Амэрыканскіх Вэтэранаў і вялікаму прыяцелю нашае газэты

**сп. ПЁТРУ КАЖУРУ**

з нагоды 75-х угодкаў жыцьця, што споўніліся 20 чэрвеня сёлета, шчыра зычым добрага здароўя і ўсякае памыснасьці на многая лета.

**Рэдакцыя «Беларуса»**
**Галоўная Ўправа БАЗА**

---

Нашага супрацоўніка, эканамічнага й грамадзкага дзеяча на Бацькаўшчыне

**сп. ПЯТРА ОРСУ**

вітаем зь 90-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 21 чэрвеня сёлета, ды шчыра зычым яму добрага здароўя і ўсякай памыснасьці.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

---

## «І ТОЙ ДЗЕНЬ ПРЫЙШОЎ»

**Раман Масея Сяднёва**

Шмат чаго хацелася-б сказаць пра гэты раман. Але пад напорам уражаньня не магу засяродзіцца над ім больш грунтоўна, пішу пабежна. Некалі, працуючы ў рэдакцыі газэты «Калгасьнік Беларусі» (1933-34 гг.), я службова наведваў бліжэйшыя ад Менску калгасы і добра ведаў, як жывуць калгасьнікі ў іх. І хоць мне ніколі не давялося бываць у рэальна існуючым калгасе ў Мокрым, апісаным у рамане Сяднёва, я бачу гэтую вёску гэтак выразна, быццам я пабываў у ёй — нагэтулькі рэльефна яна выпісаная аўтарам раману. Бачу яе гэтак, як бачу сядзібу, апісаную Якубам Коласам у «Новай зямлі». Бачу, як жывога, самога аўтара кнігі, як ён разам з сваім бацькам шчыруе на сенажаці — адмахвае пракос за пракосам. Калісьці Льва Талстога вучылі касіць мужыкі. Наш-жа аўтар пазнаў гэтую навуку яшчэ ў маленстве.

Аўтабіяграфічнасьць раману відавочная. Можа хто-небудзь папракне Сяднёва ў бытавізьме, у залішняй дэталізацыі, але я мяркую, што гэтая дэталізацыя дапамагае нам больш яскрава ўявіць жыцьцё насельнікаў калгасу. Дзякуючы дэталізацыі-штрыхам аўтару ўдалося стварыць пераканальныя вобразы. Дзеючыя асобы ў рамане — гэта жывыя людзі. Зь імі ты быццам размаўляеш. Таленавітасьць аўтара кнігі бачыцца ў кожным радку.

Іншая рыса кнігі — псыхалягізм. Нават эпізадычныя асобы ў рамане добра запамінаюцца. Пастушка Дуся — гераіня раману — як нейкая Псыхея для нашага паэта. Але я ня пішу рэцэнзію, толькі мімалётныя заўвагі, заўвагі на маргінэсе. Падобраму я зайздрошчу аўтару, віншую тут яго з удачай. Я вельмі скупы на пахвальбу. Але тут не магу ўстрымацца, каб ня прывітаць Масея Сяднёва зь пісьменьніцкай удачаю.

Можна зрабіць закід аўтару ў адным — у залішне аголенай эротыцы, хоць трэба ўлічыць час і абставіны, у якіх адбываецца дзеяньне раману.

Я ўжо сказаў: аўтару ўдалося стварыць пераканальныя вобразы. Сапраўды, такія пэрсанажы, як Мікола Бугроў, Шашок, Вяркееў, Дуся, Хіма, Піліп, Масей Лявонавіч, Меланьня і іншыя паўстаюць перад намі ў поўнай сваёй жыцьцёвай канкрэтнасьці. Пакутлівую Меланьню хочацца суцешыць, паспагадаць ёй, дапамагчы ёй у ейным трагічным лёсе. Ідэалізацыя Дусі, ейных бацькоў — Хімы й Піліпа — можа крыху перабольшаная, але гэта ня шкодзіць твору, гэта-ж такая сапраўдная душа Беларуса, ягоная нацыянальная рыса.

Гэта твор пабальзакаўску сапраўдны і пабальзакаўску гістарычны. Мне ён у нечым нагадвае некаторыя раманы Кузьмы Чорнага, якога я люблю й высока цаню.

Кнігу Масея Сяднёва «І той дзень надыйшоў» канчаў чытаць з болем у душы. Філязафічны роздум аўтара, фаталізм вызначаюць атмасфэру кнігі.

Аўтар апавядае ад першай асобы, а часамі ад трэцяй, гэтая акалічнасьць уводзіць блытаніну ў пабудову твору, ды хутка забываешся пра яе, бо раман цябе трымае ў напружанасьці.

Мясцовая гаворка некаторых пэрсанажаў дадае праўдзівасьці й каларытнасьці раману. Трагічны лёс макраўчан раніць тваё сэрца. Душа крычыць ад болю. Жонцы сваёй, што чытала кнігу А. Н. Астроўскага «Горькое слово истины», я сказаў: «Кінь тое, вазьмі во гэту кнігу Сяднёва, у ёй ты знойдзеш «горкую праўду».

Але кніга Сяднёва не пэсымістычная. Яна не пэсымістычная хоць-бы дзеля таго, што яна высокамастацкая.

**Сымон Шаўцоў**

### «КОНТИНЕНТ» ПРА Ф. БАГУШЭВІЧА

Выдаваны ў Парыжы расейскі часапіс «Континент» (№ 55) зьмясьціў артыкул беларускага пісьменьніка з Канады Кастуся Акулы пад заг. «Акупацыйны рэжым супраць 'бацькі' беларускага адраджэньня». На 9-х старонках друку К. Акула піша пра заціск беларускай культуры ў БССР, пра руйнаваньне Багушэвічавага дому ў Кушлянах ды бязьдзейнасьць у дачыненьні да памяці пачынальніка беларускай навейшай літаратуры напярэдадні 150-годзьдзя ад ягонага нараджэньня, што споўніцца ў 1990 годзе.

***Новая беларусіяна***
***New Bielarusiana***

## НАБЫВАЙЦЕ-ПАШЫРАЙЦЕ

СЛОВА ПРА ПАХОД ІГАРАВЫ. Пераклад Рыгора Барадуліна. Уводны артыкул Міколы Гайдука. Выданьне часапісу «Беларускі Сьвет» у выдатным афармленьні. 32 б. Цана: 5 дал.

*Зьніч.* РЭХА МАЛІТВЫ. Вершы зь Беларусі. Уводны артыкул Янкі Запрудніка. На люксусовай паперы. Выданьне газэты «Беларус». 36 б. Цана: 5 дал.

*Масей Сяндёў.* І ТОЙ ДЗЕНЬ НАДЫЙШОЎ. Раман. Выданьне аўтара. 245 б. Цана: 10 дал. (50% на «Беларуса»).

THE BYELORUSSIAN TRISTAN. Translated by Zora Kipel. Vol. 59. Series B. Garland Library of Medieval Literature. 167 p. Price: $32.

THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES. Vol. VI, N. 1 (1988). 76 p. Price: $12.

BYELORUSSIAN TOPICS. Byelorussian Magazine, N. 1 (1988). 20 p. Price: $3.

## *ВЕХАВЫ ВЕРШ*

**«Прыстасаванцы» Пімена Панчанкі**

У ходзе галоснасьці паступова ўсплываюць на паверхню публічнае ўвагі факты, што лягуць некалі ў аснову новае гісторыі савецкага грамадзтва й культуры савецкай Беларусі. Да гэткіх фактаў належыць і верш Пімена Панчанкі «Прыстасаванцы», гісторыя апублікаваньня якога пачынае цяпер выясняцца. Крытык і гісторык літаратуры Рыгор Шкраба ў сёлетнім чацьвертым нумары часапісу «Нёман» расказаў крыху пра абставіны, у якіх верш зьявіўся на сьвет, ды зазначыў, што ад часу апублікаваньня яго ў 1956 годзе «наша літаратура вядзе падлік сваіх дасягненьняў, як ад календарный даты».

Панчанкаў верш «Прыстасаванцы» Шкраба залічае да твораў, «якія заўсёды вучаць гаварыць праўду». Цяпер адно выяўляецца, якой цаною гэты верш быў выдрукаваны. «Давайце прыгадаем, — піша Рыгор Шкраба, — што сталася пасьля публікацыі вершу 'Прыстасаванцы'. Васіль Вітка вымушаны быў пакінуць пасаду галоўнага рэдактара 'Літаратуры і Мастацтва'. Іншыя супрацоўнікі былі звольненыя ад займаных пасадаў зусім не дзеля свайго жаданьня. Членаў рэдкалегіі таксама 'ушли'.

«Я тады загадваў аддзелам літаратуры й меў магчымасьць чытаць першапачатны тэкст вершу 'Прыстасаванцы'. Публікацыя яго не адбылася бяз стратаў. Аўтар вымушаны быў правіць і скарачаць — гэткая была цана за магчымасьць публікацыі. У друкаваным варыянце няма дзьвюх строфаў, што былі ў рукапісе. Вось як чыталася дзявятая страфа:

А хто намкнецца іх быт парушыць,  
Адразу трапіць у іх засаду —  
Яны аблаюць, яны заглушаць,  
Яны задушаць салідным задам.

«Перадапошняя страфа была больш войстрай і ваяўнічай:

Я знаў на фроньце, што вораг — вораг.  
А як-жа стукнуць па гэтых мордах?  
Між нас прыжыўся, зашыўся ў норы  
Прыстасаванцаў агідны ордэн».

Рыгор Шкраба прызнаецца: «Мне давялося шукаць новае месца працы, падпісаўшы гэты верш да друку» (б. 152).

Верш «Прыстасаванцы» зьмешчаны ў кнізе выбраных твораў Панчанкі «Выбранае» (1975 г.) і ў зборніку «Прылучэньне», што выйшаў летась. Вось гэты верш:

### ПРЫСТАСАВАНЦЫ

Станкоў ня знаюць, араць ня ўмеюць,  
Да воза з гноем ня йдуць і блізка.  
Разумнае, вечнае, добрае сеюць  
Між мас працоўных амаль з калыскі.

Закончаць нешта з тугой нацяжкай,  
Запас прыдбаюць цытатаў розных.  
Дзяцей у школе вучыць ім цяжка,  
Лягчэй, выгодней вучыць дарослых.

Цытата з вока, цытата з вуха,  
І зуб у роце блішчыць цытатай.  
Глядзіш з сумненьнем на сына-зуха —  
Кім ён змайстрован? Наўрад ці  
татам.

Ідуць насустрач грашовай справе,  
На пафас голы яны ня клюнуць.  
Маліцца будуць, калі ты ў славе,  
Калі ты ў горы — з насьмешкай  
плюнуць.

Разьлік дакладны ды плюс удача,  
Паклон начальству ды жартаў  
крышку —  
Глядзіш — і стаўка, а там і дача,  
Грунтоўны базіс ашчаднай кніжкі.

І, ўладкаваўшыся адмыслова,  
Чужыя думкі прыстойна крадуць.  
Зусім забылі жывое слова  
І занядбалі людзкую праўду.

Застылі твары кароўім лоем,  
Нос падпірае тупая веліч.  
Глядзяць з пагардай на ўсё малое,  
Балбочуць нешта ды ружавеюць.

У цёплых ложках хіхікаць любяць  
З наіўных дурняў, што ў вёску  
едуць, —  
Кватэры трацяць, кар'еры губяць,  
Збываюць танна свае «Пабеды».

Вялікай працай заняты людзі,  
Пяюць у шчасьці, ў бядзе бядуюць.  
Прыстасаванцы-ж б'юць гулка ў  
грудзі,  
Крычаць — «гадуем...», крычаць —  
«будуем...».

Сярод народу такіх ня многа,  
Ды вельмі-ж хітра яны нам шкодзяць.  
Нам замінае вось гэта погань,  
Як пыл дарожны ў цяжкім паходзе.

Іх распазнаюць людзкія вочы,  
Ні ў якіх норах ім не схавацца.  
Мы гэта зробім, калі ня хочам  
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

1956

Шмат свае творчае энэргіі й грамадзянскага запалу аддаў Пімен Панчанка на змаганьне з «прыстасаванцамі» ўсіх гатункаў і рангаў, у тым ліку й з «прыстасаванцамі»-русыфікатарамі. Апошнім і роспачным актам у змаганьні супраць гэтых апошніх сталася Панчанкава пастанова ня пісаць больш ніякіх літаратурных твораў (гл. артыкул у гэтым нумары «Трагедыя беларускага камуніста»).

### «ЗВАЖАЙ» № 2(50)

У нумары: ПУ-ВС — Распад савецкае імпэрыі няўхільны; В. Сянькевіч — Да 425-х угодкаў захопу Полацку Іванам Грозным; Кастусь Каліноўскі і беларуская культура; Язэп Барэйка — Вобраз К. Каліноўскага ў беларускай прозе; Прывітаньне ад Прэзыдэнта Рэйгана; Арык Марголіс — Зброя ці галоснасьць; нататкі, хроніка, абвесткі.

**Ад рэдакцыі «Беларуса»:** З нагоды выхаду 50-га нумару часапісу «Зважай» вітаем рэдактара гэтага выданьня Беларускіх Вэтэранаў сп. Кастуся Акулу й супрацоўнікаў зь юбілейным нумарам. Часапіс «Зважай» выконвае вельмі важную місію ня толькі вэтэранскага лучніка ды перахоўвальніка жаўнерскіх традыцыяў, але й форуму для абмяркоўваньня прынцыпова важных палітычных і гістарычных пытаньняў беларускага Вызвольнага Руху.

Шчасьці Божа ў далейшай працы!

### ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА

Данчыкаву апошнюю кружэлку можна набыць за 15 дал. (плюс кошт перасылкі 2,50 дал. у ЗША), пішучы на адрас:

Mrs. J. Andrusyshyn  
430 East 6 St., Apt 3C  
New York, N.Y. 10009

***ПАДПІШЭЦЕСЯ НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС», ПАДТРЫМВАЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ ДРУКАВАНАЕ СЛОВА.***

## БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА Ў РОКФАРДЗЕ

На паўночны-захад ад Чыкага знаходзіцца гор. Рокфард, а на ўсход ад яго вялікае возера Мічыган. Вось-жа ня так як у Джэксане ў штаце Нью-Джэрзы, дзе старыя іміґранты з нашага краю пасяліліся ў лясістай мясцовасьці, у Рокфардзе нашыя суродзічы апынуліся ў бязьлесным навакольлі. За горадам яны пабудавалі сабе дамы, а на ўзгорку талакой збудавалі царкву. Рабілася гэта ўсё зь ініцыятывы паваенных іміґрантаў, гэтак званых ДП, у сярэдзіне 1950-х гадоў. Узначаліў ініцыятыўную групу наш суродзіч, кемкі чалавек сп. А. Волах. Ён дамовіўся зь фірмамі аб пастачаньні будаўлянага матар'ялу, закупіў вялікі абшар зямлі, падзяліў на дзялянкі, надаў ім цану, а пакупнікі ўжо самі будавалі сабе дамы, плацячы фірмам за прывезены матар'ял. І гэтак паўстаў пасёлак з вуліцамі, якія былі названыя прозьвішчамі пасяленцаў, пераважна жыхароў былых лягероў у Нямеччыне: Остэргофэну, Віньдзішбэргердорфу й Бакнангу, а пазьнейшым ужо часам куплялі там дамы, новыя будоўлі, якія ставіў ад свайго імя сп. Волах.

Цяпер я, жыўшы ў Чыкага, наведваў гэтую мясцовасьць. У 1962 г. нават намовіў царкоўны камітэт у Рокфардзе, каб ён запрасіў да сябе Ўладыку Васіля (Тамашчыка), бо ў іх былі цяжкасьці займець сталага настаяцеля. Супраць таго, каб рокфардзкая парафія пераходзіла пад апеку Ўладыкі Васіля быў а. Лапіцкі. Сп. Волах у выніку гэтага запрасіў на свой кошт зь Лёндану з Ангельшчыны архіепіскапа Польскае Аўткеф[illegible]ае Праваслаўнае Царквы Мацея С[illegible]шку з намерам высьвяціць свайго зяця сп. І. Валюкевіча ў дыяканы. Архіеп. Мацей рады быў наведаць ня толькі Рокфард, але й Амэрыку, ды прывёз з сабою сьвятара а. П. Ясь[illegible]былога настаяцеля парафіі ў Крас[illegible]гаве каля Маладэчна. Яго ў 1939 г. Саветы вывезьлі зь сям'ёю ў Сібір, а пасьля, калі генэрал Андэрс зьбіраў свае войска да ўдзелу ў Другой сусьветнай вайне, а. Ясько запісаўся таксама на гэтую службу, як санітар і сьвятар, ды абслугоўваў усіх праваслаўных жаўнераў корпусу ген. Андэрса. А гэткіх, як ведма, было вельмі шмат, больш як 12 000. Як ужо ведама, корпус ген. Андэрса прайшоў шлях з СССР праз Іран, Палестыну, Эгіпет, Італію, і рэшткі яго апынуліся ў Ангельшчыне. Айцец Ясько прыехаў з Англіі ў Амэрыку ўжо ўдаўцом, у сане архімандрыта й кандыдата ў епіскапы.

Але вярнемся да нашых людзей у Рокфардзе. Цяпер некаторыя там старыя пэнсіянеры. Дзеці іхныя служылі ў амэрыканскай арміі, а ўнукі здабылі вышэйшую навуку, набылі розныя прафэсіі, але сувязь усіх іх зь беларускімі цэнтрамі вельмі слабая.

Некалі Беларусы з Клівленду імі апекаваліся, прыяжджалі часьцей да іх з канцэртамі, на вясельлі. У Чыкага знайшоўся быў кандыдат у сьвятары (С. Марціновіч). Навязалі мы тады з Уладыкам Васілём сувязь, каб ён высьвяціў яго ў сьвятары. Архіеп. Васіль пазьней колькі месяцаў прыяжджаў на багаслужбы да рокфардцаў, бо а. Ясько выехаў у Флярыду як пэнсіянер. Пасьля ўсяляк было. Абслугоўвалі іх розныя духоўнікі з розных цэркваў, а цяпер ужо — і з расейскай зарубежнай юрысдыкцыі.

Нашыя людзі там вельмі сумуюць, што іх пакінулі беларускія дзеячы бяз увагі, хоць стан можа быць вельмі лёгка зьменены.

Рокфардзкая парафія падобная да беларускае парафіі ў Рычмонд-Гіле ў Нью-Ёрку, яна нават у лепшым палажэньні, бо мае свой статут, а сьвятароў у сябе прыймае па дамоўленасьці зь імі, абы толькі яны былі праваслаўнымі ды захоўвалі традыцыі нашай веры.

Было-б вельмі добра, каб туды прыехаў беларускі сьвятар зь Беласточчыны, як гэта ўжо сталася ў іншых нашых парафіях.

**А. А.**

## АХВЯРЫ НА БЕЛАРУСКІ КРЫЖ У КАНАДЗЕ

| | | | |
|---|---|---|---|
| Махнач Ванда і Міхась | кан.дал. 125,75 | Салавей Галіна | 100,00 |
| Грэбень Мікола | 37,50 | Маларчук Ірына | 100,00 |
| Вініцкая Кацярына | 62,00 | Стома Васіль і Ніна | 121,75 |
| Буткевіч С. | 24,65 | Нікан Мікола | 17,05 |
| Стус Багдан (Валя Шэлест) | 63,63 | Скабей Мікола | 17,05 |
| Галяк Раіса | 127,25 | Бартуль Франьціш і Вера | 122,25 |
| Др. Грабінскі Балеслаў | 62,13 | Шукелайць Антон | 63,18 |
| Кіпель Марыя | 31,00 | С. Н. | 61,13 |
| Кіпель Вітаўт і Зора | 124,00 | Ціпко Язэп | 18,23 |
| Раецкі Міхась | 63,97 | Арцюх Язэп | 18,23 |
| Др. Набагез У. | 122,75 | | $1.902,00 |
| Лішчонак Балеслаў | 100,00 | | |
| Пітушка Элеанора | 50,00 | | |
| Шапараў В. | 25,00 | | |
| Др. Запруднік Ян | 121,75 | | |
| Вортс Кон | 121,75 | | |

**Арганізатары праекту «Беларускі Крыж» шчыра дзякуюць усім ахвярадаўцам за маральную й матар'яльную падтрымку.**

### ПРА А. БАРСКАГА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Бюлетэнь выкладчыкаў Квінскага Каледжу ў Нью-Ёрку ў нумары за 10 сакавіка зьмясьціў нататку пра літаратурны вечар беларускага паэта з Польшчы Алеся Барскага, найбольш ведамага прадстаўніка літаратурнага згуртаваньня «Белавежа». Барскі, сказана ў бюлетэні, адзначаецца «дасканальным валоданьнем мовы, зыркай вобразнасьцяй і моцным зацікаўленьнем культурнымі справамі свае нацыі».

Літаратурным вечарам Барскага, як адзначыў бюлетэнь, завяршылася 10-годзьдзе сэрыі беларускіх вечароў, якую каардынуе славіст праф. Томас Бэрд.

### THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES

Vol. VI, No. 1, 1988

Contents:

Francis Skaryna's Biblical Prefaces and Their Place in Early Byelorussian Literature — by A. B. McMillin; Christian, Jewish and Muslim Translations of the Bible and Koran in Byelorussia: 16th-19th Centuries — by P. Wexler; Sounds and Words Reflections on Reading Skaryna — by H. Rothe; Лінгвістычнае наватарства Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы — У. В. Анічэнка; The Slavonic Third-person Singular and Byelorussian Historical Dialectology: Some Tentative Observations — by R. H. Miller; The Case Governed by the Preposition ПА in Byelorussian — P. J. Mayo; The Chairman's Annual Report for the Year 1984-1985. Reviews.

# З САВЕЦКАГА БЫТУ

## ФЭРМА Ў «ПЕРАДАВОЙ» ВОБЛАСЬЦІ

**«Як за царом Гарохам»**

Карэспандэнтка часапісу «Работніца і Сялянка» З. Малашэвіч прыехала ў калгас «Расьсьвет» Лунінецкага раёну ў Берасьцейскай вобласьці (якая ўважаецца за «перадавую»), прыбыла на жывёлагадоўчую фэрму, застала там даярак у часе працы.

«Жанчыны набіралі ў вёдры і мяшкі бульбу, што ляжала ля фэрмы, і насілі каровам. У каго 25 кароў, трэба занесьці 25 вёдзер бульбы ды яшчэ ўдвая столькі жамерын. Чые каровы ля ўваходу стаяць, той пашанцавала, а чые за сорак мэтраў і далей — што-ж, закідвай мяшок за плечы ды цягні. Пакрэктваючы, падсабляючы адна адной, даяркі сьпяшаліся хутчэй управіцца са сваёй нялёгкай работай. Расчырванеліся, халаты на іх брудныя, рукі чорныя ад гразі».

Старшыня калгасу Аляксандар Лукашэвіч жаліцца карэспандэнтцы:

«— Гэта-ж трэба. Зь Мінску ехаць з-за нейкай ананімкі! Хто напісаў тое пісьмо? Ёсьць у нас пара гультаек: рабіць ня хочуць, а каб грошай палучаць паболей. Яны й напісалі. Вы, прэса, перабудаваліся хутчэй як хто, пішаце там рознае... А я вось напісаў у вышэйшую інстанцыю, дык нават адказу не далі».

Журналістка далей піша:

«Просьба А. Лукашэвіча заключалася ў тым, каб гаспадарцы не скарачалі норму вадкага паліва. На кацельню, што на комплексе 'Доўгае', на сэзон трэба 500 тон паліва, а столькі даюць на ўвесь калгас. Хацелі перайсьці на электрапаліва, дык Брэсцкі энэргаНагляд не дазваляе: ці мала што, мы за вас адказваць ня хочам...

«І што-ж атрымалася? На комплексе нельга мэханізаваць раздачу кармоў, не працуюць малакаправод, мыечная для бульбы. Закрылі адміністрацыйны корпус, бо не ацяпляецца, а там — разьдзявальня, душавая, чырвоны куток. І так ужо два гады. (...)

«Калі зойдзеш усярэдзіну фэрмы (тут стаяць 800 кароў), ледзь бачыш канец прагону. І думаеш: колькі-ж трэба прайсьці за дзень даярцы, ды яшчэ зь мяшком бульбы, з поўнымі вёдрамі і бітонамі? Мэтры складаюцца ў кілямэтры... (...)

«Праезд /да фэрмы/ — яшчэ адно набалелае пытаньне. Абяцалі аўтобус, але за восем гадоў эксплятацыі ён зламаўся. Цяпер возяць жанчын два разы на дзень на грузавой машыне. /На фэрме працуе 37 асобаў/.

«Разам з вадзіцелем А. Сыцэвічам праехала гэтак і я. Спыняемся ля адной хаты, забіраем купку жанчын. Яны караскаюцца на высокія колы, але ня могуць перaлезьці цераз борт машыны, падсаджваюць адна адну. Уселіся на голай халоднай падлозе, паехалі. Праз нейкі час зноў прыпынак, зноў доўга валтузяцца ля машыны, і так праз дзьве вёскі — Вулькy-2 і Бродніцу. Ад Бродніцы да фэрмы амаль 20 кілямэтраў. Надвор'е стаяла сухое, халоднае, гравійная дарога пасылала нам усьлед клубы пылу. Рукі, твар, адзеньне — усё шэрае. А ўзімку, у сьцюжу, мароз? (...)

«Раней, пры адсталым, як мы кажам, аднаасобным гаспадараньні селянін вырабляў усё, што яму трэба было: калёсы, плуг, барану. Цяпер, пры сучасным прагрэсе, асноўныя прылады на фэрме — вілы і вёдры, дый тыя даяркі з хлева нясуць. Такая праблема — нарабіць тых ваганетак, цялежак — у раённай ці ў сваёй майстэрні! Пабудавалі комплекс амаль на тысячу галоў, а працуюць як за царом Гарохам».

(З. Макарэвіч. Каманьдзіроўка па пісьму. ВІНАВАТЫ...КАЦЁЛ?, «Работніца і Сялянка», 1987, № 12)

## ПАРТЫЙНАЕ БУДАЎНІЦТВА: ДЛЯ НАРОДУ Й ДЛЯ СЯБЕ

*(Паводля арт. Я. Чаплі «Лесьвіца да прэстыжу», «Зьвязда», 3.III.88)*

**Будаўніцтва для народу:**

Горад Рагачоў. Раённая паліклініка.

«Вось палата на 5 ложкаў. З-пад коўдраў, нацягнутых пад самы падбародак, выглядваюць тры бабулькі, дзьве маладзіцы. Дыялёг наш кароткі: 'Холадна?' — 'Холадна...'. Відаць, што ад гэтага холаду жанчын не ўратоўваюць ні дзьве коўдры, ні бальнічныя халаты. А хто-ніхто яшчэ і сьвітэр пад падушкай на ўсякі выпадак трымае. І такі-ж малюнак у іншых палатах. Хоць на двары ўсяго мінус чатырнаццаць.

«А вось ліфт — звычайны пасажырскі. Каталка ў яго не ўмяшчаецца, таму інфарктных хворых ад машыны хуткай дапамогі і да палаты на трэцім паверсе нясуць на насілках. Чым адгукаецца сэрца, якому патрэбен абсалютны спакой, на кожную прыступку лесьвіцы, на кожны разварот насілкаў на лесьвічнай пляцоўцы?

«Урачы часта нясуць двайную нагрузку, бо цяпер у раёне, як адзначыў апошні пленум гаркому партыі, не хапае 59 урачоў, у стаматалогіі іх амаль у два разы менш, чым трэба па штату. А зараз, да таго-ж, пакуюць чамаданы яшчэ некалькі маладых дактароў. Такі дэфіцыт урачоў у Рагачаве выкліканы іншым дэфіцытам жыльля для іх. Свайго бальніца ня будуе, гар- і райвыканком выдзяляюць ёй мізэр, плата за прыватнае жыльлё зьядае амаль палавіну заробку ўчарашняга выпускніка мэдінстытуту».

**Будаўніцтва для сябе:**

У тым-жа Рагачове будынак гаркому партыі.

«Калідоры першага паверху, лесьвіца на другі ў часе нядаўнага капітальнага рамонту ўбраліся ў белы мармур. А пліты, што вядуць на другі паверх, да таго-ж вось-вось будуць закрыты дывановай дарожкай. Зала паседжаньняў на 300 месцаў. Перад ёю — вялізны вэстыбюль, падлога з мармуру і граніту, а столь таксама, як дарэчы, і ў зале, — у прыгожых гіпсавых плітах.

«Левае крыло аддадзенае пад кабінэты. Тут запасная лесьвіца на другі паверх і таксама з дарагога беласьнежнага каменю. На другім паверсе яшчэ адна зала для паседжаньняў. Перад ёю — таксама фае. (...)

«Такія будоўлі закончылі сабе райкомы ў Кіраўску, Бешанковічах, Брэсьце, Калінкавіцкі гарком, вядзе райком у Хойніках. Прыгожы палац-райком вырас у Століне. Велічна глядзіцца новы будынак Магілеўскага гаркому партыі.

«Год назад Чашніцкі райком перабраўся ў шыкоўны будынак. Я ўважліва прааналізаваў эканамічныя паказчыкі работы раёну за мінулы год — яны, як і трэба было чакаць, ня сталі істотна лепшымі ад таго, што райкомаўцы атрымалі больш прасторныя і ўтульныя кабінэты і сталі хадзіць у іх па шырокай мармуровай лесьвіцы».

## СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМЕР БОРТНІК

Нарадзіўся 15.1.1910 г. ў фальварку Мікалаева каля Шаркаўшчыны — настаўнік, выдавец газэты «Бацькаўшчына», нязьменны старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Заходняй Нямеччыне, заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу, беларускі прадстаўнік у кіраўніцтве Эўрапейскае Рады Праваў Чалавека й Самавызначэньня (зь сядзібай у Швайцарыі) — памёр 16 чэрвеня 1988 г. ў гор. Мюнхэне, дзе й пахаваны.

Сваяком і прыяцеля Нябожчыка выказваем глыбокія спачуваньні.

Вечная памяць.

**Рэдакцыя газэты «Беларус»**

### ПАНІХІДА ПА СЬВ. ПАМ. У. БОРТНІКУ

У царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку, на просьбу сэктара Рады БНР у Нью-Джэрзы, а. Васіль Андраюк адслужыў 26 чэрвеня паніхіду па сьв. пам. Уладзімеру Бортніку, паховіны якога адбыліся ў Мюнхэне 22 чэрвеня (абрад пахаваньня выканаў а. Аляксандар Надсон).

## ПЭДАГОГІКА: МЭТАДАМ СТРАХУ

«Мне, радаваму настаўніку, давялося з болем бачыць недахопы школы апошніх дзесяцігодзьдзяў. Прыгэтым заўсёды чуў аб нашай асьвеце самыя высокія і хвалебныя словы. (Гэткай хвальбы яшчэ ўсё поўна ў выдаванай для эмігрантаў газэце «Голас Радзімы» — рэд. «Б-са»).

«А на самай справе многія школы ахапіла інфэкцыя выкладчыцкай шэрасьці. Настаўнік пераказваў слова ў слова няцікавы, надакучлівы падручнік і патрабаваў такога-ж — слова ў слова — адказу. Дзяцей ведамі не зацікаўлівалі, іх ледзь ня сілай (здаралася і сілай) прымушалі мэханічна выконваць заданьні. Усё школьнае жыцьцё было так старанна зарэглямэнтавана, што для праяўленьня самастойнасьці настаўнікаў і вучняў, для энтузіязму ня было месца й часу. Дырэктара зачастую баяліся — і гэта лічылася добрым: ён быў жорсткім адміністратарам, які не цярпеў тых, хто ўступае ў палеміку.

«І школа навучылася 'давіць', патрабаваць, караць. (...)

«Да гэтага часу не магу зразумець, якая мода была выніковасьць ад напісаньня разносных, падобных на судовыя рашэньні або паліцэйскія пратаколы лістоў бацькам на іх работу: 'Ваш сын ганьбіць школу, прапускае ўрокі...', 'Ваша дачка паводзіць сябе нахабна, узяла за сьмеласьць пярэчыць настаўніцы ў часе тлумачэньня ўроку. Адкуль у яе свае думкі? (...)

«Настаўнік часам баіцца выказваць свае думкі калегу, адміністрацыі, баіцца паспрачацца, адстаяць вучня, ідэю, думку.

«Баязьлівасьць стала ўдзелам пэдагога, баязьлівасьць перад начальствам, ад якога ён залежыць па рабоце».

(А. Іоселеў, настаўнік. «Настаўніцкая газэта», 2.III.88)

## ЗАРАБОТКІ Й ЦЭНЫ

Дзяржаўны камітэт БССР па статыстыцы падаў у лютым сёлета («Советская Белоруссия», 5.II.88): «Сярэднямесячная грашовая заработная плата рабочых і службоўцаў у народнай гаспадарцы склала /у 1987 г./ 188 рублёў супраць 180,5 рубля ў 1986 годзе. Сярэднямесячная аплата працы калгасьніка пабольшала із 171 рубля да 182 рублёў».

«Паводля часапісу «Работніца і Сялянка« (№ 12 за 1987 год), самыя высокія заработкі на жывёлагадоўчай фэрме калгасу «Расьсьвет» «перадавое» Берасьцейскае вобласьці не перавышаюць 130-140 рублёў.

А цяпер паглядзем на цэны.

Вось некаторыя цэны, узятыя з «Афіцыяльнае табліцы» лятарэі, праведзенай у г. Лідзе на пачатку сакавіка сёлета («Зьвязда», 3.III):

| Рэч | Цана ў руб. |
|---|---|
| Завушніцы зь серабра | 60 |
| Завушніцы залатыя | 120 |
| Электрамясарубка | 25 |
| Ваза крыштальная для фруктаў | 45 |
| Швэйная машына нажная | 252 |
| Электрафэн «Зара» | 42 |
| Дыван (2 × 3 м) | 450 |
| Набор корпуснай мэблі «Іпуць» | 900 |
| Пыласос «Цыклон» | 56 |
| Набор мэблі для спальні «Васіліна» | 1000 |
| Набор мэблі для кухні «Мідзі» | 385 |
| Фотаапарат «Зэніт ЕТ» | 100 |
| Гадзіньнік жаночы «Прамень» | 64 |
| Электраміксэр-кавамолка | 45 |
| Тэлевізар «Гарызонт-Ц-261» | 720 |
| Пральная машына «Золушка» | 150 |
| Веласыпэд дарожны жаночы | 79 |

## МЕНСКІЯ БЯЗДОМНІКІ

Гарбачоўская галоснасьць вынесла на паверхню друку тэму бяздомных, якіх, паводля савецкага журналіста Аляксея Лебедзева, экспэрта гэтага пытаньня («Московские Новости», 13.III.88), налічваецца «сотні тысячаў». Вось як гэтая зьява выглядае ў сталіцы БССР Менску, паводля газэты «Зьвязда» за 22.III.88 (артыкул пад заг. «'Генэралы' звалак»):

«Аб іх ходзяць па Мінску самыя неверагодныя чуткі, але ўбачыць іх можна толькі на месцах пастаяннага 'жыхарства' — гарадзкіх звалках, якія сталі для іх домам, месцам работы. Размова ідзе аб 'сьмецярох', або, як іх яшчэ называюць, 'генэралах звалак' — невялікай, але характэрнай групе дармаедаў, што бадзяюцца па сталіцы й навакольлях. (...)

«Быў пік прывозу. На згружаныя сьмецьцявозамі кучы наляцелі дзесяткі брудных людзей з самаробнымі дзюбкамі-крукамі на палках. Умомант усё ператрушвалася, а мяшкі 'налётчыкаў' папаўняліся хлебам, бутэлькамі, утылем. (...)

«Тут трэба сказаць аб разьдзяленьні пярэстага натоўпу на 'гаспадарнікаў' і 'сьмецяроў'. Апошнія ў сваю чаргу дзеляцца на 'аматараў' і 'прафэсіяналаў'. Па няпісаных законах гэтай суполкі, 'гаспадарнікі' — жыхары навакольных вёсак — маюць права толькі на збор харчовых адходаў для асабістай жывёлы. 'Аматары' — людзі з жыльлём і работай у Мінску — увесь вольны час корпаюцца ў сьмецьцi дзеля 'навару'. 'Прафэсіяналы'-ж — 'генэралы звалак' поўнасьцю жывуць за кошт даходаў ад збору утылю. (...) Штодзённае п'янства, якое ўкаранілася ў гэтым асяродзьдзі, так хутка зьнішчае ў 'аматараў' пачуцьцё чалавечай годнасьці, што некаторыя кідаюць работу, дом і пасяляюцца на звалцы. Тут-жа ствараюць новыя 'сем'і'.

«— Асноўнай прычынай утварэньня звалачных 'каленій' лічу пазбаўленьне людзей прапіскі пасьля адбыцьця пакараньня, — кажа А. Прохараў (інспэктар па працаўладкаваньню). — Ня кожны здолее знайсьці пастаянную работу, калі яму за трыццаць, а прадпрыемства пасьля гэтага ўзросту не прадстаўляе інтэрнату».